



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

11 снежня 2020 года №50 (1337)

18+


# Пенсія – не грошы з паветра. Адкуль яна бярэцца

старонка 20

Падчас акцыі пратэсту ў Маладзечне.
Фота Настассі УТКІНАЙ.





Чым небяспечныя аднаразовыя маскі для дзікіх жывёл і навакольнага асяроддзя

старонка 21

У Маладзечне працягваюцца суды за несанкцыянаваныя мерапрыемствы

старонка 19





У Вілейскай паліклініцы зала ЛФК пераедзе ў кабінет галоўнага доктара

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



Падчас асабістага прыёму ў дэпутата Ірыны Супрановіч 22 верасня.

# Вілейчукі і мядзельцы рыхтуюць другі зварот да дэпутата

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Жыхары Вілейкі і Мядзела падрыхтавалі новы калектыўны зварот да дэпутата Палаты прадстаўнікоў Ірыны Супрановіч. Адказамі на першы зварот яны незадаволеныя.**

– Мы атрымалі толькі два адказы. Адзін далі мне. На пытанне пра тое, ці можна паглядзець копіі пратаколаў выбарчых камісій, адказалі, што нельга, бо, згодна з артыкулам 40 Выбарчага кодэксу, паўнамоцтвы камісій прыпыняюцца пасля афіцыйнага апублікавання вынікаў выбараў.

> **Аднак у гэтым кодэксе няма забароны на тое, каб азнаёміцца з пратаколамі праз нейкі час пасля выбараў.**

А згодна з артыкулам 155/1, пратаколы выбарчых камісій захоўваюцца пяць гадоў, – адзначае адна з ініцыятараў звароту віляйчанка **Вольга Шостак**. – Яшчэ быў адказ адной віляйчанцы пра рамонт дарогі на Астроўскага.

Нагадаем, што з дэпутатам Ірынай Супрановіч вілейчукі сустракаліся ў верасні. Сярод зададзеных пытанняў і пажаданняў былі:

- перагледзець грашовую дапамогу па доглядзе за інвалідам і дапамогу па беспрацоўі;
- стварыць новыя працоўныя месцы;
- вырашыць праблему са старым закінутым будынкам кілбаснага цэха ў цэнтры горада;
- адкрыць беларускамоўныя класы ў Вілейцы;
- растлумачыць, дзе і калі можна выкарыстоўваць пэўную сімволіку.

Па словах вілейчукоў, подпісы пад другім зваротам вырашылі сабраць па інтэрнэту. Прычыны дзве. Першая – пандэмія каронавіруса. Другая – штрафы, якія за збор подпісаў на вуліцы атрымалі пяць вілейчукоў у мінулы раз.

> **У другім калектыўным звароце дэпутата просяць даць поўныя адказы на пытанні, зададзеныя выбаршчыкамі 22 верасня на асабістым прыёме.**

А таксама выказаць асабістую грамадзянскую пазіцыю ў адносінах:

- да ігнаравання канстытуцыі і парушэння прававых асноў дзяржавы, калі ўлада рэалізуе пазіцыю «часам не да законаў»;
- да дзеянняў улады, якая для захавання ўласных інтарэсаў спрабуе маніпуляваць грамадскай думкай, распальвае супрацьстаянне паміж грамадзянамі адной краіны з рознымі думкамі, што прыводзіць да ўзрастання агрэсіўных настрояў;
- да ігнаравання ўладай грамадскага запыту на дыялог і прававых механізмаў.

Зварот накіравалі на асабісты электронны адрас дэпутата, а таксама праз форму электроннага звароту ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Адбыліся новыя прызначэнні ў рэгіёне

ВАЛОЖЫН
ВІЛЕЙКА

Ад 1 снежня на пасадзе загадчыцы сектара архітэктуры і будаўніцтва Валожынскага райвыканкама працуе **Елізавета Бондар**.

Новы кіраўнік сектара родам з Маладзечна. У 2015 годзе скончыла Маладзечанскі політэхнічны каледж, у 2020 – Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Прамысловае і дзяржаўнае будаўніцтва», паведамляюць у Валожынскім райвыканкаме.

Раней дзяўчына працавала ў Валожынскім бюро Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры».

Ад 4 снежня на пасадзе начальніка Вілейскага камбікормавага завода працуе **Сяргей Зубель**, паведамілі ў аддзеле арганізацыйна-кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

Раней Сяргей Віктаравіч узначальваў аддзел землеўпарадкавання ў райвыканкаме. Ён змяніў на пасадзе **Уладзіслава Гучака**, які ўзначальваў завод ад 2017 года.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Алены ГРАКОВІЧ.

Так выглядае Вілейскае вадасховішча ў сярэдзіне снежня.

# Буйныя вадаёмы рэгіёна летась не замярзалі

## Ці шкодзіць гэта рыбе, спыталі ў эксперта

**Вілейскае вадасховішча і азёры на Мядзельшчыне летась не замярзалі ўпершыню за 25-30 гадоў, паведамілі на выратавальных станцыях. На 9 снежня, калі рыхтавалася газета, лёду ні на вадасховішчы, ні на азёрах таксама яшчэ не было.**

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Спецыялісты Вілейскай выратавальнай станцыі расказалі, што каля берагоў вадасховішча плавае шуга – кавалкі тонкага паламанага лёду. Яны не даюць рыбакам плаваць на лодках.

Падобная сітуацыя і на вадаёмах Мядзельшчыны. Спецыялісты таксама паведамілі карэспандэнту, што з лёдам на азёрах Мядзельшчыны «пакуль дэфіцыт».

Па словах спецыялістаў, каб усталяваўся трывалы лёд на вадаёме, трэба тры-чатыры дні марознага надвор'я. Пры гэтым не павінна быць вятроў і хваляў.

Ці ўплывае адсутнасць лёду на насельнікаў вадаёмаў? Пра гэта мы запыталі ў старшага навуковага супрацоўніка навукова-практычнага цэнтра па біярэсурсах **Руслана Навіцкага**.

– Умераны клімат, у якім мы з вамі жывём, прымушае насельнікаў вадаёмаў адаптавацца да сезоннасці – змене перыядаў актыўнасці і спакою. Перыяд спакою звязаны з асаблівасцямі зімовых умоў, у тым ліку з паніжэннем тэмпературы, – адзначыў Руслан.

Па яго словах, калі вадаём не замярзае, жывыя арганізмы не сыходзяць на спакой і хутчэй трацяць назапашаныя пажыўныя рэчывы. Але калі няма лёду, насельнікам вадаёмаў лепш дыхаць. Бо глыбокае прамярзанне пагаршае кіслародны абмен. А так вецер і хвалі даюць кісларод.

Такім чынам, адзначыў эксперт, тое, што вадаёмы не замярзаюць зімой, для рыбы і іншых жывых арганізмаў нядрэнна. Куды горш тое, што з-за змянення клімату летам на вадаёмах пры высокай тэмпературы здараецца мор рыбы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Традыцыйнага шэсця Дзядоў Марозаў не будзе

**Сёлета з-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі ў Вілейцы адмяняюць традыцыйнае шэсце Дзядоў Марозаў, расказаў карэспандэнту начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама Сяргей Паўлоўскі.**

ВІЛЕЙКА

Па гэтай жа прычыне Дзед Мароз і Снягурка не будуць хадзіць з віншаваннямі па кватэрах. Але зусім без святочных мерапрыемстваў вілейчукі не застануцца, адзначылі ў аддзеле.

У Палацы культуры пакажуць навагоднее прадстаўленне. А 1 студзеня, ад 1:00 да 3:00, на цэнтральнай плошчы ля навагодняй ялінкі ахвотных чакае канцэртная праграма, якую зладзяць мясцовыя артысты. Ці будзе салют, пакуль невядома.

**Нагадаем, што тэатралізаванае святочнае шэсце Дзядоў Марозаў штогод ладзілі ў Вілейцы ў апошнія дні снежня.**

Навагоднія персанажы збіраліся каля раённага Палаца культуры і ішлі вакол цэнтральнай плошчы горада.

Да пачатку свята кожны Дзед Мароз са сваёй Снягуркай ладзілі ўласную творчую рэзідэнцыю, дзе праводзілі конкурсы, гульні, вікторыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**10 800**

Столькі азёраў у Беларусі

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.12 | 10.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5881 | **2.5482** |
| Еўра | 3.1249 | **3.0928** |
| Злоты, 10 | 6.9892 | **6.9509** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4247 | **3.4775** |
| Грыўня, 100 | 9.1056 | **9.0958** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 2.12 | 9.12 |
| Еўра | 3.0500/3.1500 | **3.0500/3.1500** |
| Долар ЗША | 2.5600/2.6400 | **2.5000/2.6000** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 2.12 | 9.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,30** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **2,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **8,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,20** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Кіроўца таксі не прапусціў машыну, што ехала па галоўнай

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 3 снежня каля паловы пятай вечара на скрыжаванні вуліц Паўночная–Ларына, раказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ **Дыяна Галуза**.

– 46-гадовая маладзечанка на «Рэно-Логан» ехала па вуліцы Ларына з хуткасцю прыкладна 50 кіламетраў у гадзіну. Пад'язджаючы да скрыжавання з вуліцай Паўночнай, убачыла, што па другараднай дарозе справа едзе аўтамабіль. Ён не спыняўся і не скідаў хуткасць, – тлумачыць інспектар па адміністрацыйнай практыцы.

Па словах Дыяны Галузы, кіроўца аўто «Рэно-Логан», пазбягаючы сутыкнення, вымушаная была экстранна затармазіць і ўзяць улева. Аднак сутыкненне адбылося.

Другім удзельнікам ДТЗ быў 48-гадовы кіроўца таксі, маладзечанец, таксама на «Рэно-Логан». Ён патлумачыў, што адцягнуў сваю ўвагу на навігатар і пры пад'ездзе да скрыжавання глядзеў толькі направа.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўцы сутыкнуліся каля чыгуначнага пераезда

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Аварыя здарылася 3 снежня ў 11:45 на скрыжаванні Калядная і Гарадоцкай, недалёка ад чыгуначнага пераезда, што побач з мясакамбінатам у Маладзечне, раказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Дыяна Галуза.

64-гадовы кіроўца-маладзечанец на аўтамабілі «Рэно-Меган» рухаўся ад пад'езда вуліцы Чэхава да вуліцы Гарадоцкай. На скрыжаванні ён планаваў павярнуць налева, да чыгуначнага пераезда.

– Кіроўца выехаў на скрыжаванне, пагледзеў, што справа машын няма. Злева ёсць, але далёка. Праехаў метры два, і нечакана справа з'явілася машына, марку якой не запомніў. Ён спыніў машыну, каб прапусціць аўтамабіль справа. І ў гэты момант адбылося сутыкненне з машынай ГАЗ-3309, якая ехала злева і ўжо нагнала «Рэно-Меган». ГАЗам кіраваў 39-гадовы віляйчук, – раказала Дыяна Галуза.

Кіроўцы не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вілейчука будуць судзіць за абразу міліцыянера ў тэлеграм-канале

ВІЛЕЙКА

У суд Вілейскага раёна накіравалі крымінальную справу ў адносінах да жыхара Вілейкі. Яго падазраюць у злачынстве, прадугледжаным артыкулам 369 Крымінальнага кодэкса – публічная абраза прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў.

– Падчас расследавання крымінальнай справы ўстанавілі, што віляйчук у верасні са свайго мабільнага тэлефона ў чаце адной з груп Telegram апублікаваў тэкст каментара, у якім заўважылі абразу ў непрыстойнай грубай форме ў адрас супрацоўніка Вілейскага РАУС, – раказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

Падчас расследавання крымінальнай справы фігурант сваю віну прызнаў. Згодна з артыкулам, мужчыну пагражае да трох гадоў абмежавання волі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У работніцы фермы скралі ровар. Падазраюць ураджэнца Казахстана

ВАЛОЖЫН

На днях у Валожынскі РАУС звярнулася жыхарка вёскі Малое Запур'е з просьбай знайсці скрадзены ровар.

Жанчына патлумачыла, што ровар быў на тэрыторыі малочнатаварнай фермы, дзе працуе. Калі яна выйшла пасля працы, каб паехаць дадому, то ровара на месцы не аказалася.

Пры выездзе на месца здарэння следча-аператыўная група знайшла скрадзены «Стэлс» і вярнула гаспадыні. У крадзяжы падазраюць 54-гадовага ўраджэнца Казахстана, які не працуе і не мае пэўнага месца жыхарства, раней судзімы. На пытанне: «З якой мэтай?», мужчына патлумачыў, што ровар хацеў прадаць і за атрыманыя грошы купіць прадукты і спіртное, аднак не паспеў.

Валожынскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 205 КК Рэспублікі Беларусь.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Кіроўца на аўтамабілі «Івека» вёз прадукты і не справіўся з кіраваннем на закругленні дарогі.

Фота забеспячэнне Дыянай ГАЛУЗАЙ.

# Аўтамабіль перакуліўся і загарэўся

## Кіроўца вылазіў праз акно

**Аварыя здарылася на аўтадарозе Радашкавічы-Чысць, каля Гранічаў. Падрабязнасці раказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза:**

МАЛАДЗЕЧНА

– Здарэнне адбылося 8 снежня каля паловы дзясятай раніцы. На закругленні дарогі ўправа кіроўца – 22-гадовы мінчанін на аўтамабілі «Івека» – не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у правы кювет, дзе пасля машына перакулілася.

Па словах інспектара, падчас перакульвання кіроўца страціў прытомнасць. Калі апрытомнеў, аўтамабіль ужо гарэў.

Хлопец выбіў шкло і самастойна вылез з кабіны. «Хуткую» выклікалі відавочцы, бо тэлефон кіроўцы згарэў у машыне.

Пацярпелага з траўмамі даставілі ў ЦРБ №1.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанца падазраюць у абразе двух міліцыянераў

МАЛАДЗЕЧНА

24 лістапада ва ўпраўленне па Мінскай вобласці ГУУБ МУС паступілі заявы ад двух міліцыянераў Маладзечанскага РАУС, што ў тэлерам-групах «Чат групы карнікі» і «Маладзечна для жыцця Chat» адзін з удзельнікаў чата апублікаваў у дачыненні да іх абразлівыя каментары ў сувязі з выкананнем імі службовых абавязкаў.

Устанавілі, што абразы пісаў 39-гадовы маладзечанец, які працуе майстрам у мясцовай будаўнічай арганізацыі. Мужчыну затрымалі па падазрэнні ў злачынстве. 3 снежня Маладзечанскі РАСК узбудзіў крымінальную справу па артыкуле 369 КК – публічная абраза прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## За размаляваныя сцены і тратуар вілейчука будуць судзіць

ВІЛЕЙКА

Пракуратура Вілейскага раёна накіравала ў суд крымінальную справу ў дачыненні да 27-гадовага мясцовага жыхара Н., якому інкрымінавалася псаванне маёмасці ў грамадскіх месцах.

Згодна з матэрыяламі справы, нецвярозы Н. 14 верасня, каля 22 гадзін, сумесна са сваім знаёмым, крымінальная справа ў дачыненні да якога выдзеленая ў асобную вытворчасць, нанёс аэразольнымі балончыкамі з фарбавальнікам чорнага і шэрага колераў надпісы на сценах, дзвярах пад'ездаў, металічных паверхнях электрычных шчытоў, прыступках лесвіц двух жылых дамоў па вуліцы Гарадзішчанскай у Вілейцы, а таксама на тратуарнай плітцы.

Дадзенымі дзеяннямі Вілейскай ЖКГ, на балансе якога знаходзяцца названыя дамы, нанесеная шкода на 167 рублёў.

У ходзе папярэдняга следства малады чалавек прызнаў сваю віну, раскаяўся ў зробленым і кампенсаваў нанесеную прадпрыемству шкоду.

Пры вывучэнні крымінальнай справы пракурор прыйшоў да высновы аб абгрунтаванасці абвінавачвання, поўным даследаванні абставін злачынства. Пагадзіўся з прававой кваліфікацыяй дзеянняў Н. па артыкуле 341 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

## Затрымалі мужчыну, які псаваў чыгунку

АШМЯНЫ

Работнікі Ашмянскага РАУС і АУС на транспарце ўстанавілі асобу мужчыны, якога падазраюць у пашкоджанні магістральнага кабеля на чыгунцы.

Устанавілі, што мужчына пераразаў кабель нажоўкай. Таксама дапамагаў сабе ломам і рыдлёўкай.

Ім апынуўся 27-гадовы ашмянец. Інцыдэнт здарыўся 11 лістапада на перагоне Ашмяны–Гудагай.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле 309 Крымінальнага кодэкса – наўмыснае пашкоджанне транспартнага сродку або шляхоў зносін. Пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

Раней мужчына да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

**Паводле УУС Гродна.**

# Новы расклад руху цягнікоў ад 13 снежня

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

| МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК | | | | МІНСК-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № цягніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6102 | 04:07 | 05:56 | б/п Селівонаўка | 6101 | 00:46 | 02:26 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:08 | 06:56 | | 6103 | 04:30 | 06:08 | б/п Мінское Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, да Гудагая ў 06:13 |
| 6106 | 05:33 | 07:22 | ад Гудагая | 7031 | 05:20 ад Мінск-Паўн. | 06:45 | па рабочых днях, б/п Мінскае Мора, Ратамка, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы |
| 6108 | 05:45 | 07:34 | па рабочых днях | 6105 | 05:23 | 07:09 | |
| 7030 | 06:18 | 07:45 | з прыпынкамі па станцыях і п.п. Фестывальны, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны | 6107 | 06:25 | 08:19 | да Гудагая ў 08:33 |
| 6112 | 06:48 | 08:45 | | 6109 | 07:24 | 09:24 | |
| 7032 | 07:20 | 08:26 | ад Гудагая з прып. Фест., Жданов., Ляб., Масюк., Мінск-П. | 6111 | 08:00 | 09:50 | б/п Татарщчызна, Селівонаўка |
| 6114 | 07:34 | 09:23 | | 6113 | 08:47 | 10:38 | |
| 6116 | 09:12 | 11:14 | | 6115 | 09:40 | 11:38 | да ст. Гудагай у 12:06 |
| 6118 | 09:58 | 11:34 | ад Гудагая да ст.Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п.Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны | 6117 | 11:04 | 12:49 | |
| 6120 | 10:55 | 12:42 | | 6119 | 12:57 | 14:43 | |
| 6122 | 13:01 | 14:50 | | 6121 | 13:56 | 15:43 | да Гудагая ў 16:05 |
| 6124 | 14:52 | 16:41 | ад Гудагая | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 15:58 | 17:47 | | 6125 | 16:15 | 18:00 | |
| 6128 | 16:37 | 18:34 | ад Гудагая | 7033 | 16:50 | 18:14 | з прыпынкамі па станцыях і п.п. Мінск-Паўночны, Масюкоўшчына, Лябяжы, Фестывальны, да Гудагая ў 18:18 |
| 6130 | 17:29 | 19:28 | | 6127 | 17:35 | 19:20 | |
| 6132 | 19:18 | 21:06 | ад Гудагая | 7035 | 18:14 | 19:28 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск-Паўночны, Масюкоўшчына, п.п. Лябяжы, Ждановічы, Фестывальны, далей да Гудагая ў 19:32, з прып. па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| 7034 | 19:50 | 21:15 | з прыпынкамі па станцыях і п.п. Фестывальны, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны | 6129 | 18:20 | 20:05 | да Гудагая ў 20:34 |
| 6136 | 20:33 | 22:28 | | 6131 | 19:29 | 21:15 | |
| 7036 | 21:25 | 22:35 | Гудагай-Маладзечна з прып. па станцыях і п.п.Каменка,Гаўцi, Заскавічы, Маладёжны. Далей да Мінска з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны | 6133 | 20:52 | 22:38 | |
| 6138 | 22:12 | 23:58 | ад Гудагая, далей б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6135 | 22:13 | 23:55 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

| МАЛАДЗЕЧНА-ГУДАГАЙ | | | | ГУДАГАЙ-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № цягніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6103 | 06:13 | 07:35 | штодзённа ад Мінска | 6106 | 04:10 | 05:28 | штодзённа да Мінска ў 05:33 |
| 6107 | 08:33 | 09:55 | штодзённа ад Мінска | 7032 | 05:53 | 07:11 | штодзённа да Мінска ў 07:20 |
| 6115 | 12:06 | 13:28 | штодзённа ад Мінска | 6118 | 08:33 | 09:53 | штодзённа, далей да Мінска з усімі прыпынкамі да ст.Алёхнавічы, далей па станцыях, п.п. Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны |
| 6121 | 16:05 | 17:27 | штодзённа ад Мінска | 6124 | 13:13 | 14:32 | штодзённа да Мінска ў 14:52 |
| 7033 | 18:18 | 19:40 | штодзённа ад Мінска | 6128 | 15:13 | 16:32 | Штодзённа да Мінска ў 16:37 |
| 7035 | 19:32 | 20:43 | штодзённа, Мінск-Маладзечна з прып. Мінск-Паўночны, Масюкоўшчына, Лябяжы, Ждановічы, Фестывальны, далей да Гудагая, з прып. па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка | 6132 | 17:55 | 19:13 | штодзённа да Мінска ў 19:18 |
| 6129 | 20:34 | 21:56 | штодзённа ад Мінска | 7036 | 20:02 | 21:21 | штодзённа, па станцыях, п.п.Каменка, Гаўцi, Маладзёжны, Заскавічы, далей да Мінска з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны |
| | | | | 6138 | 21:01 | 22:10 | штодзённа, па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, Асанаўскі, Насілава, далей да Мінска, б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |
| МАЛАДЗЕЧНА-ЛІДА | | | | ЛІДА-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6261 | 08:41 | 11:43 | штодзённа | 6262 | 04:04 | 07:04 | штодзённа |
| 6263 | 12:26 | 15:25 | суб., нядз. | 6264 | 08:53 | 11:51 | штодзённа |
| 6265 | 18:26 | 21:32 | штодзённа | 6266 | 12:20 | 15:19 | суб., нядз. |
| 6267 | 20:39 | 23:41 | штодзённа | 6268 | 15:51 | 18:49 | штодзённа |
| МАЛАДЗЕЧНА-КРУЛЕЎШЧЫНА-ПОЛАЦК | | | | ПОЛАЦК-КРУЛЕЎШЧЫНА-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6626 | 08:55 | 11:14 Крулеўшчына | штодзённа 13:34 Полацк | 6622/ 6621 | 04:41 ад Крулеўшчыны | 06:53 | штодзённа ад Глыбокага ў 04:03 |
| 6684 | 12:43 | 14:52 | у выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | 15:10 ад Крулеўшчыны | 17:16 | у выхадныя |
| 6676 | 15:54 | 16:25 | у рабочыя да Вілейкі | 6683 | 16:45 | 17:16 | у рабочыя ад Вілейкі |
| 6630/ 6629 | 20:18 | 22:27 Крулеўшчына | штодзённа 23:10 Глыбокае | 6625 | 17:21 ад Крулеўшчыны | 19:36 | штодзённа ад Полацка ў 15:25 |

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў

| № цягніка | Маршрут | Адпр. з пач.станц. | Па ст. Маладзечна | | | Прыб. на канцавую станц. | Дні курсiравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | прыбыццё | стаянка | адпр. | | |
| 623Б | **Віцебск – Гродна (п.в.Камунары-Гродна)** | 18:07 | 0:55 | 3 | 0:58 | 5:24 | штодзённа |
| 626Б | **Віцебск – Мінск** | 21:38 | 4:13 | 49 | 5:02 | 6:29 | пт, сб, ндз, пн |
| 871Б | **Мінск – Полацк** | 6:30 | 7:32 | 13 | 7:45 | 10:21 | штодзённа |
| 687Б | **Мінск – Гродна** | 07:05 | 8:10 | 3 | 8:13 | 11:56 | штодзённа |
| 869Ф | **Полацк – Мінск** | 6:14 | 8:38 | 8 | 8:46 | 9:41 | штодзённа |
| 730Б | **Гродна – Мінск** | 6:37 | 9:39 | 8 | 9:47 | 10:43 | штодзённа |
| 731Б | **Мінск – Гродна** | 15:17 | 16:11 | 2 | 16:13 | 19:10 | штодзённа |
| 869Б | **Мінск – Полацк** | 17:29 | 18:27 | 8 | 18:35 | 21:06 | штодзённа |
| 871Ф | **Полацк – Мінск** | 16:25 | 18:56 | 8 | 19:04 | 20:01 | штодзённа |
| 688Б | **Гродна – Мінск** | 15:36 | 19:08 | 2 | 19:10 | 20:09 | штодзённа |
| 729Б | **Мінск – Гродна** | 19:19 | 20:13 | 2 | 20:15 | 23:30 | штодзённа |
| 624Б | **Гродна – Віцебск (п.в.Гродна-Камунары)** | 17:25 | 21:38 | 2 | 21:40 | 6: 03 | штодзённа |
| 732Б | **Гродна – Мінск** | 19:48 | 22:41 | 1 | 22:42 | 23:38 | штодзённа |
| 625Б | **Мінск – Віцебск** | 21:30 | 22:46 | 35 | 23:21 | 6:42 | пт, сб, ндз, пн |

Тэл. для даведак: **105,** (8-0176) **74-24-23.**

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі. Станцыя Маладзечна. УНП 600199541

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Талуць Вілейскага раёна, ёсць лазня, хлеўчык, падвал. У дом падведзеная вада. Т. (8-029) 8638553.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

• Гараж у ГБК-2. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*



• Будаўнічыя, рамонтныя і аддзелачныя работы. Прыватнае прадпрыемства «Будаўнічая кампанія Вілія» УНП 193435365 Т. (8-029) 3027185 (А1).*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Наносім фота на квартальны каляндар — 10 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС», УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зялянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант», маразільнік, тэлевізар, пральная машына, усё б/у. Т. (8-029) 7755336.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Прадам мабільны тэлефон Meizu M8c, у добрым стане, 100 руб. Т. (8-033) 3668181.*

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Дойная каза. Т. (8-029) 3597375.*

• Кабан свойскі. Т. (8-029) 8759065.*

• Казёл 1,5 года, котная каза. Т. (8-029) 5737741.

• Парасяты свойскія. Памагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.

• Распродаж парасят кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в’етнамскія на мяса. Парасяты в’етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для переноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Біблію на польскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Мастацкія кнігі, аддрукаваныя ў 1978-1980, Роберта Льюіса Стывенсана «Востраў скарбаў», «Чорная страла»; Луі Бусенара «Выкрадальнікі брыльянтаў» Т. (8-033) 6407558. Салагуб А.А.

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вялком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Абшыўка балконаў (ПВХ, вагонка, МДФ) унутры і звонку. Т. (8-029) 7080220.*

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Масажыст з досведам шукае працу. Т. (8-029) 2609392.

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |

# Віктарыны, гульні і рэкламная кампанія «Поўны адрыў»

## Пачалася акцыя «Бяспечны Новы год»

МАЛАДЗЕЧНА

**7 снежня на Маладзечаншчыне стартавала рэспубліканская акцыя «Бяспечны Новы год». Яна нагадае пра выкананне правілаў бяспекі ў зімовы перыяд, папярэдзіць пажары і няшчасныя выпадкі з-за выкарыстання піратэхнічных вырабаў. У акцыі – чатыры этапы.**




Першы, **ад 7 да 11 снежня**, ужо завяршаецца. Падчас яго работнікі МНС наведалі тэрытарыяльныя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, дамы ветэранаў і інвалідаў, санаторыі. Тут са сталымі людзьмі правялі конкурсы і віктарыны, бяспройгрышныя латарэі, паказалі прафілактычныя фільмы.

Другі этап акцыі запланаваны на перыяд **ад 14 да 18 снежня**. Тут прафілактычныя мерапрыемствы зладзяць з вучнямі ў школах, інтэрнатах, установах пазашкольнай работы. Таксама актыўнасці правядуць з бацькамі і дзецьмі ў сем'ях, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы. Выратавальнікі раскажуць аб правілах выкарыстання піратэхнікі, правілах паводзін на лёдзе, правядуць віктарыну «Хто хоча стаць геніем бяспекі?» і пакажуць тэматычныя фільмы, ролікі і мультфільмы.

А ў некаторыя сем'і прыедуць Дзед Мароз са Снягуркай і не толькі раскажуць аб правілах бяспекі, а правядуць з дзецьмі і бацькамі гульні, віктарыны і конкурсы на навагоднюю тэматыку.

На наступным этапе, **ад 21 да 24 снежня**, у месцах продажу піратэхнічных вырабаў з'явяцца Пажарны Дзед Мароз, Снягурка і іншыя казачныя персанажы, якія нагадаюць пакупнікам аб магчымых наступствах выкарыстання хлапушак і петардаў. А яшчэ казачныя персанажы з'явяцца на лядовых катках і ў дзіцячых установах аховы здароўя.

Фінальныя мерапрыемствы акцыі пройдуць **ад 28 да 31 снежня** ў месцах масавага знаходжання людзей – на адкрытых пляцоўках, у буйных гандлёвых і дзіцячых забаўляльных цэнтрах, на рынках, дзе ратавальнікі павіншуюць удзельнікаў акцыі з надыходзячымі святамі, нагадаюць правілы бяспекі, раздадуць прафілактычныя буклеты, правядуць тэматычныя віктарыны.

На працягу акцыі ратавальнікі ладзяць рэкламную кампанію «Поўны адрыў», конкурсы «Навагодні дызайн ад МНС» і лепшы відэаролік «Бяспечны Новы год», акцыю «Бяспечная навагодняя карэспандэнцыя», анлайн віктарыну «Хто хоча стаць геніем бяспекі?», шэсці і віншаванні Дзядоў Марозаў-ратавальнікаў. На радыё будуць праводзіцца віктарыны і розыгрышы, у друкаваных выданнях з'явяцца публікацыі, на ТБ – відэаролікі, а таксама карысныя тэксты на інтэрнэт-парталах і ў сацыяльных сетках.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**
**Ілюстрацыя забяспечаная аўтарам.**

# Дайджэст: tut.by – без статусу СМІ, некаторыя беларусы – без Алімпіяды

## Прапануем агляд падзей апошняга тыдня ў Беларусі і свеце.

### Некаторых чыноўнікаў і спартсменаў не пусцяць на Алімпійскія гульні

Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) абвясціў у панядзелак аб санкцыях у дачыненні да Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК) Беларусі.

**У прыватнасці, забарона на ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах МАК, уключаючы Алімпіяду, датычыцца ўсіх членаў выканкама НАК.**

Разам з **Віктарам** і **Аляксандрам Лукашэнкамі, Дзмітрыем Даўгалёнкам, Дзмітрыем Баскавым, Любоўю Чаркашынай** у спісе – міністр аховы здароўя, ураджэнец Ільі **Дзмітры Піневіч**. У НАК ён – старшыня медыцынскай і антыдопінгавай камісіі.

### ААН: Свет сутыкнуўся з наймацнейшым за 75 гадоў крызісам

Свет сутыкнуўся з наймацнейшым за 75 гадоў крызісам, выкліканым пандэміяй, – на мяжы галоднай смерці апынулася амаль 270 мільёнаў чалавек. Наступны год пройдзе пад знакам гуманітарнай катастрофы, якую выклікала пандэмія каранавіруснай інфекцыі. Пра гэта заявіў дырэктар Сусветнай харчовай праграмы ААН **Дэвід Бізлі** на спецыяльнай сесіі Генасамблеі арганізацыі. Па словах Бізлі, крызісу, падобнага да сённяшняга, не было за ўсе 75 гадоў існавання ААН. Ён адзначыў, што за апошнія чатыры гады з-за ўзброеных канфліктаў у свеце колькасць тых, хто галадае, вырасла з 80 мільёнаў да 135 мільёнаў чалавек. А пандэмія менш чым за год падвоіла гэту лічбу.

### Эканамічны суд пазбавіў tut.by статуса СМІ

3 снежня ў Эканамічным судзе Мінска разгледзелі справу па іску Мінінфарма супраць TUT.BY. Міністэрства лічыць, што «няпраўная інфармацыя» ў матэрыялах, за якія вынесеныя папярэджанні, наносіць шкоду дзяржаўным інтарэсам. TUT.BY паказваў, што пазбаўленне статусу СМІ абмяжоўвае правы грамадзян на доступ да дакладнай інфармацыі. Суддзя пастанавіў пазбавіць TUT.BY статусу СМІ. Нагадаем, ад 7 жніўня TUT.BY атрымаў чатыры папярэджанні па сваіх матэрыялах. Пазбаўленне выдання статусу СМІ магчымае пасля двух і больш пісьмовых папярэджанняў на працягу аднаго года.

### Улады Літвы заклікалі запасціся прадуктамі на выпадак аварыі на БелАЭС

Насельніцтва Літвы павінна зрабіць запас прадуктаў на выпадак аварыі на БелАЭС, што знаходзіцца за 50 кіламетраў ад Вільні. Пра гэта 3 снежня ў эфіры нацыянальнага радыё LRT заявіў прадстаўнік МУС Балтыйскай рэспублікі **Міндаўгас Баярунас**.

«Рэкамендуем насельніцтву стварыць запас прадуктаў першай неабходнасці на трое сутак», – сказаў ён.

У гэты рэзерв ведамства раіць уключыць кансервы, крупы, алей, цукар, ваду.

**Паводле Sport.tut.by, rbc.ru, ТАСС.**




Пра новую залу ЛФК доктар-рэабілітолаг марыла даўно.

# Зала ЛФК з падвала пераязджае ў кабінет галоўнага доктара

ВІЛЕЙКА

**Плануюць, што да канца гэтага года зала лячэбнай фізкультуры ў Вілейскай паліклініцы пераедзе ў іншае памяшканне. Свой кабінет для залы аддае галоўны доктар Ірына Макарава.**

Пра тое, чаму зала ЛФК пераязджае і чым тут займаюцца, мы пагутарылі з доктарам-рэабілітолагам, загадчыцай аддзялення медыцынскай рэабілітацыі **Наталляй Пятрышчавай**.

### Чаму займацца лячэбнай фізкультурай у падвале нязручна

– Кабінет ЛФК пакуль месціцца ў падвале. Там, канешне, зрабілі рамонт. Але няма вокнаў, няма безбар'ернага асяроддзя. Я часам хвалявалася, каб пацыенту, які прыйшоў з сардэчна-сасудзістым захворваннем, не стала тут дрэнна, – дзеліцца Наталля Аляксандраўна.

Па яе словах, лячэбная фізкультура, або кінэзіятэрапія – лячэнне рухамі – вельмі перспектыўны кірунак у сучаснай медыцыне. Сёння ў залу прыходзяць і пацыенты з хваробамі сэрца, і людзі з інваліднасцю, і тыя, хто перанёс пераломы, і школьнікі са скаліёзам.

Ёсць спецыяльная група для людзей, якія хварэлі на кавідныя і звычайныя пнеўманіі. З імі тут займаюцца дыхальнай гімнастыкай.

Два разы на тыдзень прыходзіць група людзей з інваліднасцю ад Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва.

– Але не ўсе ахвотныя з інваліднасцю могуць прыйсці да нас займацца з-за адсутнасці безбар'ернага асяроддзя. Не кожны з іх можа пераадолець некалькі прыступак, – кажа доктар. – Часам прыходзяць людзі з пераломамі на мыліцах. Уявіце, як ім няпроста спусціцца ў падвал.

### Галоўны доктар сама прапанавала свой кабінет для ЛФК

Наталля Аляксандраўна працуе доктарам-рэабілітолагам 15 год. Кажа, што ўвесь час хацела для заняткаў іншае памяшканне. Хацелася больш зручнасці і для пацыентаў, і для медработнікаў, якія сумленна і адказна дапамагаюць хворым рэабілітавацца. Сярод такіх – інструктар ЛФК **Таццяна Іванькові**ч.

У той жа час доктар разумела: лішніх кабінетаў у бальніцы няма. А для ЛФК памяшканне трэба вялікае. Тут і трэнажоры, і групавыя заняткі. Нарэшце, сёлета праблема вырашылася.

Цяпер зала будзе на першым паверсе паліклінікі. Ганак будынка абсталяваны пандусамі. Тут жа, на першым паверсе, гардэроб.

> **– Канешне, мы не адбіралі кабінет у галоўнага доктара. Ірына Паўлаўна сама прапанавала, – кажа суразмоўца.**

– Побач з кабінетам ёсць яшчэ пакой. Туды мы паставім трэнажоры. У новую залу перанясём шведскую сценку, кушэткі, столік для распрацоўкі пасля траўмаў, спартыўны інвентар. Пасярэдзіне залы будзе зона для групавых заняткаў.

### Што такое ЛФК

Лячэбная фізічная культура (ЛФК) – гэта метад уздзеяння на чалавечы арганізм з дапамогай фізічных практыкаванняў у лячэбных, прафілактычных і рэабілітацыйных мэтах.

Фізічныя практыкаванні спецыяльна падбіраюцца ў залежнасці ад захворвання і стану хворага. Комплекс практыкаванняў можа быць накіраваны на ўмацаванне агульнага стану арганізма або ўяўляць сабой спецыяльную трэніроўку, накіраваную на ліквідацыю парушэнняў у рабоце якога-небудзь канкрэтнага органа або сістэмы ў арганізме. Дыхальныя практыкаванні, розныя лячэбныя гімнастыкі, спартыўна-прыкладныя практыкаванні таксама з'яўляюцца разнавіднасцю ЛФК. Лячэбная фізкультура паказаная для любога ўзросту і можа прымяняцца нават у выпадку цяжкіх захворванняў. Галоўнае, каб практыкаванні былі прызначаныя доктарам.

> **Самавольна падабраныя практыкаванні могуць пагоршыць стан. Таксама важна, каб практыкаванні выконваліся правільна.**

Таму звычайна заняткі ЛФК праходзяць пад наглядам медыка ў лячэбнай установе. Менавіта неабходнасць медыцынскага прызначэння і медыцынскага кантролю адрознівае ЛФК ад іншых відаў фізічнай культуры. ЛФК прымяняюць у траўматалогіі, артапедыі, неўралогіі, кардыялогіі, пульманалогіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Памёр першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі Вячаслаў Кебіч

ВАЛОЖЫН

Памёр першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі Вячаслаў Кебіч. Яму было 84 гады.

> **Вячаслаў Францавіч Кебіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1936 года на Валожыншчыне, у вёсцы Канюшаўшчына.**

Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Быў дырэктарам Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, другім сакратаром Мінскага гарадскога камітэта, а затым абласнога камітэта КПБ.

У 1985-1990-х – намеснік старшыні Савета Міністраў БССР – старшыня Дзяржплана БССР. У 1990-1994 гадах – старшыня Саўміна БССР і незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Прайграў прэзідэнцкія выбары Лукашэнку летам 1994 года. Сышоў у адстаўку 21 ліпеня 1994 года.

> **Адметна, што 8 снежня 1991 года разам са Станіславам Шушкевічам ад імя Беларусі падпісаў Белавежскае пагадненне аб ліквідацыі СССР.**

**Паводле «Нашай Нівы».**

## Вілейчукі – сярод лепшых у конкурсе, прысвечаным Дубоўку

ВІЛЕЙКА

Падвялі вынікі анлайн-конкурсу чытальнікаў «О, Беларусь, мая шыпшына». Конкурс ладзіла Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Спаборніцтвы чытальнікаў прысвяцілі 120-годдзю паэта Уладзіміра Дубоўкі. Журы адзначыла чытальнікаў з Вілейкі.

У намінацыі «За чысціню літаратурнай мовы» дыпломам адзначылі віляйчанку **Алену Балуш**. Яна чытала верш Дубоўкі «Залатая, асенняя раніца». Алена Чаславаўна – настаўніца беларускай мовы і літаратуры вілейскай гімназіі №1 «Логас».

У чытанні верша «О, Беларусь, мая шыпшына» адзначылі **Ганну Радзевіч**, навучэнку Нарочкай сярэдняй школы Вілейскага раёна, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У сувязі з пандэміяй на паўгода падоўжылі тэрмін дзеяння дакументаў

Такое рашэнне ўхваліў Савет Міністраў. На паўгода падоўжылі тэрмін дзеяння даведак і дакументаў, якія заканчваюцца ў перыяд ад 10 лістапада 2020 года да 10 мая 2021.

> **Улады вызначылі 190 адміністрацыйных працэдур па заявах грамадзян, па якіх падоўжаць тэрмін дзеяння выдадзеных даведак і дакументаў.**

Сярод іх:
- медыцынская даведка аб стане здароўя;
- даведка аб стане на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў;
- прызначэнне дапамогі па доглядзе за дзіцем-інвалідам да 18 гадоў;
- пасведчанне інваліда;
- пашпарты;
- пасведчанне на права жыхарства;
- пропускі на права знаходжання ў памежнай паласе;
- пасведчанне кіроўцы і іншыя.

Устаноўлена 161 адміністрацыйная працэдура для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў.

Пастанова ўступае ў сілу з дня афіцыйнага апублікавання.

> **Гэта ўжо другое працягненне тэрмінаў дзеяння дакументаў.**

Раней на падобныя захады ўлады пайшлі ў маі, калі падоўжылі тэрмін дзеяння на тры месяцы.

**Паводле pravo.by.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота style.rbc.ru.

# «Добры чалавек»

**Расійскі дэтэктыўны тэлесерыял відэасэрвісу START па матывах рэальнай гісторыі злаўлення ангарскага маньяка Міхаіла Папкова.**

### Сюжэт

У правінцыяльны гарадок Вазнясенск прыязджае следчы з Масквы Яўгенія Ключэўская. Начальства камандзіравала яе з афіцыйнай фармулёўкай «праверыць інфармацыю СМІ пра існаванне серыйнага забойцы».

**У Вазнясенску масквічку сустракаюць халаднавата: як і ў любым невялікім горадзе, тут яшчэ з 1990-х склалася свая экасістэма, дзе ўсе адзін з адным у чымсьці павязаныя, і ў шафе кожнага прыхавана па шкілету.**

Напарнікам Ключэўскай становіцца Іван Круціхін, мясцовы следчы.

У аснову сцэнарыя лягла гісторыя ангарскага маньяка, але яна зазнала сур'ёзныя змяненні. Выканаўца галоўнай ролі **Мікіта Яфрэмаў** распавёў у інтэрв'ю: «Персанаж, якога я іграю, на мой погляд, істотна адрозніваецца і ідэалагічна, і вонкава ад прататыпа». Рэжысёр **Канстанцін Багамолаў** сцвярджае, што гісторыя рэальнага маньяка была ў першапачатковым сцэнарыі, але пры падрыхтоўцы да здымак была значна зменена. Калі Багамолаў падключыўся да працы над праектам, ён «ужо не арыентаваўся ні на інтэрв'ю, ні на гісторыю Папкова».

### Стварэнне

Пра падрыхтоўку серыяла па матывах гісторыі ангарскага маньяка іркуцкія СМІ ўпершыню паведамілі восенню 2017 года. Тады паведамлялася, што сцэнарый будзе напісаны на аснове рэальных падзей. Ізноў аб серыяле загаварылі ў лютым 2018 года: прадзюсар відэасэрвісу START **Ірына Сасновая** паведаміла, што ў тым жа годзе праект выйдзе на экраны.

**Для распрацоўкі праекта Сасновая асабіста сустракалася з Папковым і следчым, які вёў яго справу з 2014 года.**

У ліпені 2019 года стала вядома, што серыял будзе здымаць рэжысёр Канстанцін Багамолаў. Здымкі пачаліся 23 верасня 2019 года ў Маскве і Падмаскоўі. Тады ж стала вядома, што галоўныя ролі выканаюць Мікіта Яфрэмаў і **Юлія Снігір**, **Ксенія Сабчак**.

**Серыял атрымаў у цэлым станоўчую, але стрыманую крытыку.**

Шматлікія крытыкі адзначылі выдатную працу з музыкай у серыяле. «Добрага чалавека» можна паглядзець у анлайн-кінатэатрах.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ДЕКАБРЯ

**7.00, 18.25, 21.05, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.25** «Мульт-парад».
**7.30, 16.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20** Х/ф **«ГОЛДФИНГЕР».**
**10.10** Мультфильмы «Иван царевич и серый волк».
**11.35, 16.55** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**13.05** Х/ф **«ФАНТАСТИЧЕСКИЕ ТВАРИ И ГДЕ ОНИ ОБИТАЮТ».**
**15.20, 18.30** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**16.15** «Погода»+ «Эрана».
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Т/с **«ТОРГСИН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОТЕЛЬ МУМБАИ. ПРОТИВОСТОЯНИЕ».**
**23.15** Х/ф **«ПАРАДОКС КЛОВЕРФИЛДА».**

### ВТОРНИК, 15 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.45, 18.05, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.55** «Мульт-парад». «Скуби Ду и угадай кто».
**7.30, 15.50, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**9.00, 19.00** Т/с **«ТОРГСИН».**
**10.00** Д/ф «ЗАБАЙКАЛЬЕ – ВЫЖЖЕННАЯ ЗЕМЛЯ».
**10.25** Мультфильмы «Сказка о царе Салтане».
**11.25** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**12.55** Х/ф **«ОТЕЛЬ МУМБАИ. ПРОТИВОСТОЯНИЕ».**
**15.00, 18.10** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**16.20** «Дети о еде».
**16.45** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАГОВОР В БИРМЕ».**
**23.10** Х/ф **«12 ОБЕЗЬЯН».**

### СРЕДА, 16 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.25, 18.35, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.40** «Мульт-парад».
**7.30, 16.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.55** Т/с **«ТОРГСИН».**
**10.15** «Дети о еде».
**10.35** Д/ф.
**10.55** Мультфильмы «Леди и бродяга».
**12.10, 17.05** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**13.35** Х/ф **«ЗАГОВОР В БИРМЕ».**
**15.30, 18.40** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**19.25** «Бьюти День».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«К ЗВЕЗДАМ».**
**23.15** Х/ф **«АГЕНТ 007. ЗОЛОТОЙ ГЛАЗ».**

### ЧЕТВЕРГ, 17 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.10, 21.10, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.20** «Мульт-парад».
**7.30, 16.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.00** Т/с **«ТОРГСИН».**
**9.10** Д/ф «НОРД ОСТ».
**11.55, 16.45** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**13.15** Х/ф **«К ЗВЕЗДАМ».**
**15.15, 18.25** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**18.10** «Фешн is my профешн».
**18.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЧЕСТЬ МУНДИРА».**

### ПЯТНИЦА, 18 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.55, 21.10, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 18.55** Т/с **«ТОРГСИН».**
**10.10** Д/ф «НЕВЕРОЯТНАЯ АРКТИКА».
**10.50, 16.35** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**12.10** Х/ф **«ЧЕСТЬ МУНДИРА».**
**15.15, 18.00** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**18.50** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«БЕЗУМНЫЙ МАКС. ДОРОГА ЯРОСТИ».**
**23.15** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОГНЕННОЙ САГИ».**

### СУББОТА, 19 ДЕКАБРЯ

**7.00, 19.10, 21.10, 1.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 18.30** «Мульт-парад».
**8.10** «Приколы 13-й школы».
**8.15** Х/ф **«СОБАКА НА СЕНЕ».**
**10.30** «Дети о еде».
**10.55** Х/ф **«НА КРАЮ».**
**14.20** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОГНЕННОЙ САГИ».**
**16.25** «Погода».
**16.30** «Смотрим всей семьей»: «Марли и я».
**19.15** Х/ф **«ИНТУИЦИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ГЛАВА».**
**0.25** Х/ф **«МАКС СТИЛ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.00, 16.40, 21.05, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». История принцессы».
**7.50** «Приколы 13-й школы».
**7.55** Х/ф **«ПРОСТАЯ ИСТОРИЯ».**
**9.20** Х/ф **«НА КРАЮ».**
**12.55** Х/ф **«БЕЗУМНЫЙ МАКС. ДОРОГА ЯРОСТИ».**
**15.05** «Смотрим всей семьей»: «Человек-амфибия».
**16.45** Т/с **«КОЛОМБО».**
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«РЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**23.25** Х/ф **«ЦЕЛУЯ ДЕВУШЕК».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ДЕКАБРЯ

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**7.30** Все обо всем.
**8.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**11.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК 2».**
**13.00** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**14.30** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**16.00** Х/ф **«ШЕФ».**
**17.40** Квартал 21.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.15** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 15 ДЕКАБРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.15** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**12.00** Х/ф **«СКУБИ-ДУ».**
**13.50** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.40** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**17.50, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.15** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**

### СРЕДА, 16 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Фрагменты истории.
**8.15, 20.15** Мастерство и фантазия.
**10.00** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**13.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**16.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 17 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 18.25** Мнения и факты.
**8.15** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.50** Х/ф **«КЛАУС».**
**12.15** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**13.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ. В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ».**
**16.00** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Протокол.
**20.15** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 18 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.15** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**12.05** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**15.40** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**19.15** Следопыт.
**20.15** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 19 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**10.35** Х/ф **«ГОСТЬ В СТУДИИ».**
**11.55** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**13.25** Х/ф **«СУПЕРМОГЗГ».**
**15.50** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.50** Афиша.
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ДЕКАБРЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКСИ».**
**8.00** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**10.00** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**11.50** Х/ф **«ТАКСИ 2».**
**13.20** Х/ф **«ТАКСИ 3».**
**15.00** Х/ф **«ТАКСИ 4».**
**16.35** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**18.25** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!».**

## Беларусь 1

**6.10** Х/ф **«ЗАПАХ ЛАВАНДЫ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.20** «Зона Х». Итоги недели.
**10.50** Т/с **«КОВЧЕГ МАРКА».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ПОРТРЕТ ЖЕНЩИНЫ В КРАСНОМ».**
**14.25** Маршрут построен.
**15.15** Дай пять.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** Один день.
**16.40, 19.10** Х/ф **«СТАРШАЯ ЖЕНА».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«ДЕТЕКТИВ НА МИЛЛИОН».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 19.45** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**10.40** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**11.45** Х/ф **«АЛЬФА».**
**13.20** «Короли палат». Скетчком.
**13.50** «Папа попал». Реалити-шоу.
**15.30** «Меняю жену». Реалити-шоу.
**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**18.00** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«БЕЛЫЙ ПЛЕН».**
**23.30** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.30** Навіны культуры.
**8.20** «Сестрица Алёнушка и братец Иванушка». Мультфільм.
**8.30** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Квас з селядцом.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Кадрыля». Мастацкі фільм [СТ].
**13.15** «Народны майстар». Яніна Мікульчык (ткацтва паясоў).
**13.40** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу. Ансамбль народнай музыкі «Маладзік» (г.Салігорск, Мінская вобласць).
**14.55** «Экіпаж машыны баявой». Мастацкі фільм [СТ].
**16.00 Т/ф «ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ».**
**18.20** «Вас чакае грамадзянка Ніканорава». Мастацкі фільм.
**19.50** «Кадры жыцця». Народны мастак Беларусі Іван Міско.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Шматсерыйны мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.15** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.15** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.35** ОНТ представляет: «Народный повар».
**10.55** «Видели видео?».
**12.35** Х/ф **«МОЯ ВТОРАЯ ПОЛОВИНКА».**
**16.20** Праздничный концерт.
**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Что? Где? Когда?». Зимняя серия игр.
**22.35** К 90-летию Владимира Ворошилова. «Вся жизнь – игра».
**23.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.55** Х/ф **«ВОДИТЕЛЬ ДЛЯ ВЕРЫ».**

## СТВ

**6.40, 1.15** «Странное дело».
**8.25** «Великие тайны».
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловать».
**10.30** «Большой город».
**11.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ МИНУТА».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.05** Документальный спецпроект.
**23.35** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.
**6.45** Х/ф **«ДАМЫ ПРИГЛАШАЮТ КАВАЛЕРОВ».**
**8.15** «Секретные материалы». 100 лет ВЧК.
**8.50** «Наше кино. История большой любви». Мертвый сезон.
**9.25** «ФазендаЛайф». Мансарда «Белая спальня».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15** Т/с **«ЩИТ И МЕЧ».**
**17.35, 19.30, 1.00** Т/с **«РАЗВЕДЧИЦЫ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.10** Элементариум.
**6.45** Беларусы.
**7.20** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.50** «Города Беларуси».
**9.20** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Квартирный вопрос. by».
**10.50** «Чудо техники».
**11.40** «Дачный ответ».
**12.40** Истории спасения.
**13.05** «НашПотребНадзор».
**14.00** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ТАЙНА ЗОЛОТЫХ АПОСТОЛОВ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.30** Ты не поверишь!
**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**23.05** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Специальный репортаж».
**7.25** Х/ф **«ЗАКЛЯТЫЕ ПОДРУГИ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** «Сто к одному».
**12.25** ПРАЗДНИЧНЫЙ КОНЦЕРТ, ПОСВЯЩЁННЫЙ ДНЮ РАБОТНИКА ОРГАНОВ БЕЗОПАСНОСТИ РОССИЙСКОЙ ФЕДЕРАЦИИ.
**14.40** Х/ф **«МОЯ ИДЕАЛЬНАЯ МАМА».**
**18.15** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях».
**21.50** «Тайны Беларуси».
**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.10, 14.45** Легенды осени. **7.35** Не говори ни слова. **9.40** История одного вампира. **11.30** Знакомьтесь, Джо Блэк. **17.10** Двое: Я и моя тень. **19.05** Дрянные девчонки. **20.50** Сбежавшая невеста. **23.00** Та ещё парочка. **1.05** Шанхайские рыцари. **3.00** Соммерсби.

### TV1000 ACTION

**5.10** Противостояние. **6.45, 13.15** Хэнкок. **8.15** 13-й район. **9.45** 13-й Район: Ультиматум. **11.20** Взрывная блондинка. **14.50** Ограбление по-итальянски. **16.50** Стрелок. **19.00** Телохранитель киллера. **21.00** Преступник. **22.50** Схватка. **0.45** Эффект колибри. **2.55** Револьвер.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Узник замка Иф. Аз воздам. **7.05** Ключ времени. **8.50** Со дна вершины. **10.40** Смешанные чувства. **12.10** Бабушка лёгкого поведения. **13.45** Бабушка лёгкого поведения 2. Престарелые мстители. **15.15** Выкрутасы. **17.00** Ночные стражи. **19.00** Фантом. **20.35** Кольская сверхглубокая. **22.45** Яга. Кошмар тёмного леса. **0.25** Хороший мальчик. **2.10** 14+. **4.00** Как встретить праздник не по-детски.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.45** «Новый день». **11.15** Х/ф **«ДРЕЙФ». 13.15** Х/ф **«ВРЕМЯ ПСОВ». 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00** Т/с **«МЕРТВОЕ ОЗЕРО». 23.00** Х/ф **«СНЕГОВИК». 1.30** Х/ф **«ПЛЕННИЦЫ». 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЛАБИРИНТ ИЛЛЮЗИЙ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АПОСТОЛ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ВЫХОЖУ ТЕБЯ ИСКАТЬ». 0.00, 1.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«МУЖЧИНЫ ПРОТИВ ЖЕНЩИН». 3.50** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН». 5.45** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА». 7.45** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 9.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ – ЭТО ДЛЯ ДВОИХ». 11.45** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!». 13.30** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ». 15.30** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ». 17.30** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО». 19.30** Х/ф **«МАЛЬЧИКАМ ЭТО НРАВИТСЯ». 21.20** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 23.30** Х/ф **«В ПОСТЕЛИ С ВИКТОРИЕЙ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 1.55, 3.25, 23.50** Т/с **«КАИН. ИСКЛЮЧЕНИЕ ИЗ ПРАВИЛ». 4.25, 5.20, 6.00, 6.55** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 7.50, 8.55, 10.00, 11.00, 12.00, 13.05, 14.05, 15.05** Т/с **«ШАКАЛ». 16.10** Т/с **«ШЕРЛОК: ПУСТОЙ КАТАФАЛК». 17.55** Т/с **«ШЕРЛОК: ЗНАК ТРЕХ». 19.45, 20.55, 22.10** Т/с **«ВОЙНА И МИР».**

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.50** Х/ф **«КОРОЛЬ САФАРИ». 14.30, 23.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.05** Х/ф **«ТАЙМЛЕСС 3: ИЗУМРУДНАЯ КНИГА». 18.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3: ВРАГ В ОТРАЖЕНИИ». 21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **22.50** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **1.10** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Спорт-микс. **7.10** Футбол. Чемпионат Англии. **9.10** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Гонки преследования. Мужчины. Женщины. **11.05** Плавание. Чемпионат Беларуси. Финалы. День третий. **13.15** Слэм-данк. **13.50** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Масстарт. Мужчины. **14.50, 21.50** Вот это спорт! **15.05** Питстоп. **15.40** Игры «на вырост». **16.15** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Масстарт. Женщины. **17.10** Спорт-центр. **19.00** Баскетбол. Единая лига ВТБ. УНИКС (Казань) – Цмокі-Мінск. В перерыве Спорт-центр. **20.45** Гандбол. Чемпионат Европы. Женщины. Финал. 2-й тайм. **22.05** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Бромвич – Астон Вилла. В перерыве Спорт-центр. **0.05** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.30, 8.00, 17.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Энгельберг. HS 140. **2.30** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Мужчины. Гонка преследования. **3.00, 15.40** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Женщины. Гонка преследования. **3.30** Горные лыжи. Кубок мира. Валь д'Изер. Женщины. Скоростной спуск. **4.15** Горные лыжи. Кубок мира. Валь Гардена. Мужчины. Скоростной спуск. **5.00, 20.45** Снукер. Мировой Гран-при. 1/2 финала. **7.00, 9.20, 11.35** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Двойки. 2-я попытка. **7.30, 9.50** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Женщины. 2-я попытка. **10.20** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Мужчины. 1-я попытка. **11.55** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Мужчины. 2-я попытка. **13.05** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рамзау. HS 98. **13.55** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Мужчины. Масс-старт. **14.45** Лыжные гонки. Кубок мира. Дрезден. Командный спринт. **16.15** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Женщины. Масс-старт. **17.05** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рамзау. Гонка преследования. 10 км. **19.45** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Спринт. **21.55** Снукер. Мировой Гран-при. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.30, 16.55** Металлоломщики. **7.20, 18.00** Советы юриста. **8.00, 10.35, 13.05, 16.35, 17.40, 23.05, 1.15, 3.40** Итоговые новости. **8.15** Сравнительный тест. **8.50** Теория полного привода. **9.25, 19.00** Комплектация. **9.55, 10.50** Все включено. **10.15** Вторичка. **11.05, 19.30, 22.30, 3.05** Работяги. **11.25, 19.50, 22.45, 3.25** Проверка на дороге. **11.45, 20.10, 23.25, 3.55** Стальные парни. **12.35, 13.25, 0.15** Испытание на прочность. **13.55, 1.35** Тест на «Драйве». **14.55** Эконом-тест. **15.15** Гаражная команда. **16.10, 22.00** Авто: вторые руки. **16.20, 22.20** Наезд! **18.45, 5.45** Автолайф. **21.00, 4.50** Поездка выходного дня. **21.30, 5.15** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **2.30** Сити тестер. **4.40** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.35, 9.25** Речные чудовища. **10.15, 11.05, 11.50, 12.40, 13.25, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Австралийские золотоискатели. **21.15, 21.40, 22.05, 22.30, 22.55, 23.20, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00, 1.25, 1.50** Нефритовая лихорадка. **2.15, 2.40** Австралийские ловцы быков. **3.05, 3.30, 3.55, 4.20, 4.45, 5.10, 5.35** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.00** Даты, вошедшие в историю. **6.30, 7.25, 8.20, 16.25, 22.00** Расшифрованные сокровища. **9.15** Огромные звери: последние из великанов. **10.10** Дневники катастроф 2017. **11.10, 12.00, 1.55, 2.45** Музейные тайны. **12.50** Эхо динозавров. **13.50** Жизнь на вулкане. **14.50, 15.35, 4.20, 5.15** Запретная история. **17.20** Вторая мировая – битвы за Европу. **18.20** Тайная война. **19.15** Тайны музеев. **20.05** Тайны военной машины нацистов. **21.00** Линии фронта. **22.50** Охотники на нацистов. **23.40, 0.50** История христианства. **3.30** Могилы викингов.

### NATURE

**6.00** Уличный ветеринар. **6.25** Динозавры в Австралии. **7.10** Новый взгляд на тираннозавра. **8.05** Тайны великанов Ледникового периода. **8.55** Вскрытие мамонта. **9.45** Могучие реки. **10.35, 22.20, 23.10** Речные чудовища. **11.30, 12.15, 13.00, 13.45, 14.35, 21.35** Ветеринар из Йоркшира. **15.20, 16.10, 17.05** Тайная жизнь слонов. **18.00, 18.55, 19.45, 20.40** Эпический Йеллоустоун. **0.05, 0.55** Опасные исполины. **1.40, 2.35** Выживание в дикой природе. **3.25, 4.25** Рожденные для свободы. **5.25** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.15** Сделать за один день. **6.40, 2.00, 2.50** Авто-SOS. **7.25** 80-е. **8.15** Панорама 360 градусов: Разрушение объектов всемирного наследия. **9.05, 10.00** Машины: Разобрать и продать. **10.50, 11.40** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **12.35** Внутри невероятной механики. **13.25** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **14.15** Расследование авиакатастроф. **15.05, 15.55** Чудеса инженерии. **16.45** Невероятные машины. **17.35** Скрытые жемчужины Турции. **18.25** Сокровища Тутанхамона. **19.15, 20.10** Секретные материалы древности. **21.00** Атлас проклятых мест. **21.50** В поисках Атлантиды. **22.40** Япония: между небом и землей. **23.30, 0.25** Прорыв. **1.10** Осушить океан. **3.35** Национальные парки Америки. **4.25, 5.15** Игры разума. **5.00** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 22.05, 2.10** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 22.35, 22.50, 2.35, 2.50** Профессиональная рыболовная лига 2019. **7.00, 23.05, 3.05** Мой мир – рыбалка. **7.30, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **8.00, 11.55, 15.50, 19.50, 0.05, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.25, 16.20, 20.20, 0.35, 4.30** Давай зарубимся! **8.45, 12.40, 0.50, 4.45** Популярная охота. **9.00, 13.00, 17.00, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.35, 13.30, 17.30, 21.35, 1.40, 5.35** Мир рыболова. **10.35, 14.35, 18.30** Люди дикого севера. **11.25, 3.35** Вкусные рецепты рыболова. **15.20, 19.20** Безграничная рыбалка. **16.35, 20.35** Охота в Новом Свете. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.30, 18.30, 22.30, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 22.45** Флористика. **7.00, 23.05** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.40, 19.40, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.30, 20.30, 0.25, 4.35** Инструменты. **8.35, 12.45, 13.15, 20.45, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 17.00, 21.00, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.35, 1.25** Моя крепость. **11.10** Огород круглый год. **13.00, 16.45** Огород круглый год. **14.50, 18.50, 2.50** Искусство в интерьере. **15.10, 19.10, 3.10** Тихая моя родина. **17.30, 21.30, 5.35** 10 самых больших ошибок. **1.55** Наш румяный каравай.



Будынак, у якім павінны быў адкрыцца кінатэатр, але ў 1949-м яго перадалі Аблмаслапраму пад халадзільнік. Некаторы час там быў кілбасны цэх. Сёння ён, закінуты, стаіць у цэнтры Вілейкі.

# Першы конкурс прыгажосці, пачатак працы «Зеніта»

## Што прыносілі на Вілейшчыну мінулыя гады Быка

ВІЛЕЙКА

### 1937

Вілейка стала маленькай Венецыяй. Рэкі Вілія і Пляснянка разліліся і затапілі вуліцу Пілсудскага (цяпер Савецкая).

30 мая ў Вілейцы зладзілі роварныя гонкі на дыстанцыю 20 кіламетраў за пераходную ўзнагароду Вілейскага таварыства роварнага спорту.

У Салаўках расстраляны ўраджэнец Вілейкі, грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог **Флягонт Валынец**.

Вілейская паэтка **Ганна Новік** упершыню выступіла ў друку з вершамі.

### 1949

Сяляне вёскі Муляры, што цяпер у Іжанскім сельсавеце, аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага. Пазней ён далучыўся да калгаса імя Кірава ў Зольках.

Вілейскі РАУС пераязджае ў новы будынак. Тут, на вуліцы 1 Мая, ён знаходзіцца і сёння.

Стварылі Вілейскі малаказавод. Першапачаткова прадпрыемства спецыялізавалася на вытворчасці кефіру.

72,9% сялянскіх гаспадарак Вілейшчыны калектывізавалі.

Члены банды ў Альковічах забілі ўчастковага оперупаўнаважанага **Рыцыка**.

1 верасня Вілейскі гарсавет дэпутатаў перадае каробку недабудаванага кінатэатра «Перамога» Аблмаслапраму пад халадзільнік. Некаторы час там быў кілбасны цэх. Сёння закінуты будынак, які стаіць у цэнтры Вілейкі, побач з кінатэатрам «Мір», незапатрабаваны.

### 1961

У Вілейцы нарадзіўся будучы саліст групы «Песняры» **Валеры Скаражонак**.

Выйшаў паэтычны зборнік Ганны Новік «Мае вёсны».

Пачынаюць працаваць яслі-сад №3.

Саўгасам «Любань» пачаў кіраваць **Яўген Мірановіч**. Пры ім у саўгасе быў кансервавы завод, спіртзавод, цэх шыпучых вінаў. Гадавалі авечак і выпускалі брынзу і кумыс, вырошчвалі шампіньёны. Тут жа быў вялікі сад і раслі пладовыя кусты, былі пасека і рыбная гаспадарка. Пры Мірановічу ў Любані пабудавалі кантору, клуб, новую школу. У ёй запрошаны мастак стварыў галерэю партрэтаў лепшых працаўнікоў саўгаса.

### 1973

Пачаў працаваць завод «Зеніт», а з ім будаваліся шматпавярховыя дамы для работнікаў.

**8 верасня, у час будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, за 45 хвілін урачыста перакрылі раку Вілію, каб утварыць Вілейскае вадасховішча.**

Скасавалі Ваўкалацкі і Мільчанскі сельскія Саветы і далучылі іх да Даўгінаўскага. А Жарскі – да Касцяневіцкага. Кузьміцкі сельсавет перайменавалі ў Журыхскі.

Адбыліся маштабныя раскопкі ў Кастыках. Пад кіраўніцтвам навукоўца **Яраслава Звяругі** даследавалі сем старажытных курганоў.

### 1985

Пры гарадскім Доме культуры стварылі жаночую і мужчынскую вакальныя групы ветэранаў, якія пазней аб'ядналіся ў адзін калектыў.

У маі адкрылі Вілейскі краязнаўчы музей. Пачала працаваць першая экспазіцыя, якая адлюстравала гісторыю раёна ад дарэвалюцыйнага мінулага да савецкага перыяду.

У Вілейцы пабудавалі аўтавакзал. У снежні 2019 правялі яго маштабную рэканструкцыю.

ПТВ №48 выпусціла першую групу кіроўцаў.

### 1997

Асвяцілі царкву ў імя свяціцеля Ціхана.

Абнавіўся асартымент Вілейскай мэблевай фабрыкі. Сталі вырабляць камоды, тумбы, шафы, сталы, наборы мэблі для кухні.

У ЗША чалавекам года ў галіне педагогікі назвалі ўраджэнца Ілы прафесара **Адама Грымаця**. Яго імя сёння носіць Ільянская сярэдняя школа.

Пры Вілейскім краязнаўчым музеі адкрылі выставачную залу імя **Нікадзіма Сілівановіча**.

Зладзілі першы конкурс прыгажосці ў Вілейцы. Ён жа быў адборачным турам нацыянальнага конкурсу «Міс Беларусь». Удзельнічалі 12 дзяўчат.

### 2009

Жарскі сельсавет перайменавалі ў Сцешыцкі.

У чэрвені ля Вілейкі адкрылі мемарыял «Памяці зніклых вёсак».

У гонар 65-годдзя вызвалення Беларусі ад фашыстаў і па ініцыятыве культурна-асветніцкага грамадскага аб'яднання азербайджанцаў у Беларусі «Габустан» ля будынка Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі па вуліцы Савецкай усталявалі помнік Герою Савецкага Саюза, камандзіру 35-й гвардзейскай танкавай брыгады, якая 1-2 ліпеня 1944 года вызваляла Вілейку, **Азі Асланаву**.

Нацыянальны банк Польшчы ў серыі знакамітым польскім мастакам выпусціў у абарачэнне дзве памятныя манеты, прысвечаныя **Уладзіславу Страмінскаму**. Два перыяды жыцця мастака былі звязаны з Вілейкай. Тут ён жыў і працаваў у 1923-24 і 1939-40 гадах.

20 верасня ў вёсцы Карэкаўцы усталявалі памятны знак у гонар сяброўства ўраджэнца вёскі паэта **Эдварда Жалігоўскага** і **Тараса Шаўчэнкі**.

Побач з Вілейкай актывісты стварылі экалога-турыстычны аб'ект «Віллянін хутар».

У сувязі з рэарганізацыяй Вілейскі гармалаказавод перайменавалі ў філіял Маладзечанскага малочнага камбіната.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

---

● КАЛЯНДАР

**11 СНЕЖНЯ**

**1876.** У Вішневе на Смаргоншчыне нарадзіўся **Мечыслаў Карловіч**, кампазітар і дырыжор, фатограф і публіцыст. Памёр 8.01.1909.

**1934.** Нарадзіўся **Анатоль Воінаў**, беларускі архітэктар, педагог.

**12 СНЕЖНЯ**

**1979.** У Раўбічах каля Мінска адкрыўся музей беларускага мастацтва.

**13 СНЕЖНЯ**

**1907.** Нарадзіўся **Мікалай Лапіцкі** (в. Грэлікі, цяпер у межах в. Засценкі Іжанскага сельсавета Вілейскага раёна), беларускі рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, публіцыст, педагог. Памёр 8 жніўня 1976 года ў ЗША.

**14 СНЕЖНЯ**

**1939.** Савецкі Саюз выключаны са складу Лігі Нацый за напад на Фінляндыю.

**15 СНЕЖНЯ**

**1859.** У Беластоку нарадзіўся **Людвік Заменгоф**, стваральнік штучнай мовы эсперанта. Памёр у 1917 годзе.

**1985.** У Беларусі нарадзіўся 10-мільённы жыхар.

**16 СНЕЖНЯ**

**1962.** У Ракаве нарадзіўся **Валяр'ян Янушкевіч**, беларускі скульптар. Аўтар помніка Агінскаму ў Маладзечне.

**17 СНЕЖНЯ**

**1942.** Ліквідацыя нацыстамі гета ў Баранавічах.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Калядны вазон, ялінка па інтэрнэце, але сёлета без калядных кірмашоў

## Як праходзіць перадкалядны час у Германіі

**Шматлікія інтэрнэт-крыніцы раяць ехаць у Германію, каб адчуць сапраўдную атмасферу Каляд. А мы вырашылі падгледзець за каляднымі традыцыямі немцаў. Магчыма, некаторыя з іх беларусы могуць запазычыць, а некаторыя ўжо запазычылі.**


Фота 34travel.me.

На адным з калядных кірмашоў у Берліне.

### Упрыгожванне дома і двара

Звычайна немцы ўпрыгожваюць жыллё ўжо ў пачатку снежня. Кладуць на стол прыгожы абрус і хвойны вянок, у вазу ставяць пару яловых галінак. На паліцах расстаўляюць фігуркі і свечкі.

На дрэвах і дамах з'яўляюцца рознакаляровыя гірлянды, на дзверы вешаюць вянок, упрыгожаны яркімі стужкамі. На падваконні ставяць домікі, у якіх свецяцца акенцы, развешваюць драўляныя фігуркі. Шыбы на вокнах распісваюць сняжынкамі, малюнкамі.

У нямецкіх крамах прадаецца мноства разнастайных дэкарацый, гірляндаў, падвесак, пацерак, статуэтак і іншых прыгожых штук для ўпрыгожвання вокнаў. Самымі простымі з'яўляюцца розныя аплікацыі, якія самі трымаюцца за шыбы і выдаляюцца з іх без следу. Гэта не сняжынкі, якія ў савецкі час мы старанна клеілі на гаспадарчае мыла.

Дарэчы, да традыцыйных папяровых сняжынак тут дадаюць анёлкаў, зоркі, званочкі.

Калі гэта прыватныя дамы, то звонку падвешваюцца ліхтарыкі ў выглядзе велізарных зорак ці сняжынак. Платы, расліннасць у дварах, а часам і акантоўка дахаў аблытваюцца гірляндамі. На газонах выстаўляюць аленяў ці зайцаў, якія свецяцца. У вокны дамоў па зіхотніх лесвіцах лезуць мігатлівыя Дзяды Марозы.

### Дуга Schwibbogen

На падваконнях дамоў у перадкалядную пару заўважаны Schwibbogen – дугі, якія свецяцца.

Аднак яны не заўсёды былі калядным атрыбутам. Некалі такія дугі прыдумалі нямецкія шахцёры. Schwibbogen з'яўляліся агеньчыкам надзеі для працаўнікоў – здабытчыкаў руды. Шахцёры сыходзілі працаваць у шахты задоўга да світання, а вярталіся ўжо ў цемры.

Лямпачкі на дугах увасаблялі тугу па сонечным святле, якога працоўныя па некалькі месяцаў не бачылі. Раней дугі выраблялі з металу. Сёння іх робяць з дрэва ці кары. Schwibbogen упрыгожваюць падваконні на калядныя святы, нібы паказваючы шлях дадому падарожнікам і працаўнікам.

### Біблейскія сюжэты

На гарадскіх плошчах, у дварах дамоў, вітрынах крам усталёўваюць батлейкі – Weihnachtskrippe. Яны аднаўляюць пячору, у якой, паводле біблейскай міфалогіі, нарадзіўся Ісус, з яслямі і фігурамі некаторых герояў Біблії. У нямецкіх дамах выстаўленне Weihnachtskrippe – такі ж звычай, як і выстаўленне каляднай ялінкі.

Асноўныя калядныя колеры – чырвоны і зялёны. Такая каляровая гама першапачаткова дыктавалася рэлігіяй. Чырвоны – увасабленне крыві Хрыста, зялёны – веры і надзеі.

### Зорка нямецкіх Каляд – пуансэція

Незвычайнае калядное ўпрыгожванне, якое сустракаецца ў дамах немцаў – кветка пуансэція, або багаткі прыгожыя. Кветка не туліцца на падваконні або ў куце, а займае самае пачэснае месца, часта – побач з калядным вянком. Пуансэцію называюць «Калядная зорка» за ярка-чырвонае верхняе лісце, якое, нібы кветка, распускаецца над ніжнімі зялёнымі лістамі. Спалучэнне чырвона-зялёнага і прыгажосць дамашняй кветкі зрабілі яе сучасным калядным сімвалам Германіі, хоць радзімай кветкі з'яўляецца Мексіка.

Пра назву расліны ёсць легенда. Згодна з ёй, у беднай дзяўчыны па імені **Пепіта** не было падарунка, каб аднесці ў царкву на Божае нараджэнне. Замест падарунка Пепіта прынесла ў царкву кветку, якая зацвіла і стала самай прыгожай з усіх дарункаў.

### Каляндар з прысмакамі

Нямецкія дзеці звычайна не ўяўляюць перыяд да наступлення Каляд без адвент-календара. Гэта дзіцячы каляндар з 24 акенцамі, якія трэба адкрываць па адным кожны дзень ад 1 да 24 снежня. Калядны каляндар карыстаецца папулярнасцю не толькі ў дзяцей, але і ў дарослых.

### Дзень Святога Мікалая

У перадкалядны перыяд немцы адзначаюць свята 6 снежня – der Nikolaus ist da (Мікалай – тут). Не трэба атаясамліваць Мікалая з нямецкім Дзедам Марозам (Weihnachtsmann), які прыходзіць на Каляды. А ўвечары, 5 снежня, дзеці каля дзвярэй пакідаюць шкарпэтку, наваксаваны чаравік або невялікі мяшок, каб Мікалай паклаў туды цукеркі, мандарыны, прысмакі і маленькія прэзенты.

### Навагодняя ялінка

Звычай упрыгожваць вечназялёнае дрэва на Каляды ў Германіі з'явіўся ў сярэднія вякі. Тады перад дзвярыма хрысціянскіх цэркваў разыгрывалі сцэну грэхападзення Адама і Евы і выгнання з раю на зямлю. У ролі дрэва, з якога Адам сарваў забаронены плод, і выступала ялінка з прывязанымі да галін чырвонымі яблыкамі.

У 17 стагоддзі немцы, якія жылі заможна, пачалі замаўляць калядныя спектаклі дадому. А бяднейшыя ігралі сцэну грэхападзення дома з дзецьмі, выкарыстоўваючы ўпрыгожанае хвоевае дрэва ў якасці дэкарацыі. Так паступова ялінка стала нязменным атрыбутам святкавання Каляд.

Упрыгожаныя ёлкі ставяць падчас правядзення свят не толькі ў нямецкіх дамах, але і на вуліцах, плошчах, у гандлёвых цэнтрах, рэстаранах. Дрэва ўпрыгожваюць разнастайнымі цацкамі, свечкамі, гірляндамі і лямпачкамі. Верхавіну вянчае Віфлеемская зорка ці анёлак з залатымі крыламі. Дома можна выкарыстоўваць і ядомыя ўпрыгожванні: дамашняе печыва, арэхі і шакаладныя цукеркі. Асаблівым задавальненнем сям'і з'яўляецца рабаванне ялінкі пасля святаў.

Звычайна самыя танныя ялінкі каштуюць 15 еўра за метр – каля 47 рублёў. Для параўнання святочнае дрэва ад метра да двух у Вілейскім лясгасе будзе каштаваць 17 рублёў. Часта немцы замаўляюць жывое дрэва па інтэрнэце. Замоўленую ялінку дастаўляюць дамоў.

### Калядныя кірмашы

Калядныя кірмашы адкрываюцца ў лістападзе. Сімвалічнай датай пачатку падрыхтоўкі да свята з'яўляецца 11 лістапада ў 11 гадзін 11 хвілін. Усталёўваюцца каруселі і атракцыёны, праводзяцца конкурсы і розыгрышы, у палатках прапануюць калядныя стравы, прадаюцца сувеніры і вырабы каляднай тэматыкі.

У кожным нямецкім горадзе ці населеным пункце ёсць месца для каляднага кірмашу. У Берліне ў перадкалядны перыяд дзейнічае адначасова некалькі кірмашоў. Турыстам рэкамендуюць пакаштаваць:

- нямецкія кілбаскі;
- айнтопф – калядны мясны суп;
- смажаныя каштаны;
- марцыпаны;
- святочнае печыва і імбірныя пернікі ў глазуры;
- нямецкі глінтвейн і яечны пунш.

Толькі сёлета традыцыйныя нямецкія кірмашы адмянілі з-за пандэміі.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле tupa-germania.ru.

Гэта другі суд па артыкуле 23.34 КаАП для Дыяны Дашчынскай, у абодвух яе прызнаюць вінаватай.

# Маладзечанку асудзілі за паўторнае парушэнне 23.34. Але першая пастанова яшчэ не ўступіла ў сілу

**15 лістапада пасля марша пратэсту па Вялікім Гасцінцы ў гонар загінулага Рамана Бандарэнкі затрымалі Дыяну Дашчынскую.**

Судовы разбор вяла суддзя **Іна Каханоўская**. Дыяну Дашчынскую абвінавачваюць у паўторным парушэнні на працягу года артыкула 23.34 КаАП «Удзел у масавых несанкцыянаваных мерапрыемствах». Сваю віну яна не прызнала.

Дашчынская хадайнічала аб спыненні справы. Па яе словах, з пратакола незразумела, што стала падставай для справы. У РАУС жанчыну трымалі больш за тры гадзіны, не тлумачылі яе правы, канфіскавалі тэлефон і напісалі, што ён належыць невядомаму ёй **Аляксандру Махоціну** (заўв. – Махоціна затрымалі пасля той жа акцыі).

> Дашчынская хадайнічала, каб да яе справы дадалі скаргу ў пракуратуру на дзеянні службовых асоб з Маладзечанскага РАУС. І апошняе хадайніцтва – зрабіць сына абаронцам падчас судовага працэсу.

Суддзя Каханоўская ўхваліла толькі хадайніцтва аб прымацаванні да матэрыялаў справы скаргі ў пракуратуру.

## Сведчанні Дашчынскай

Дыяна Дашчынская жыве ў Бухаўшчыне. У той дзень збіралася ў горад па сваіх справах, хацела зайсці ў аптэку. Каля галоўнага ўвахода ў парк убачыла шмат людзей. Пасля яны перайшлі дарогу да плошчы, пайшлі па Вялікім Гасцінцы ў бок Лядовага палаца. Дашчынская прайшла разам з людзьмі ад плошчы да крамы «Аквадыў», звярнула да рынку. Супрацоўнікі падышлі да яе ў дварах, сказалі, што яна ўдзельнічала ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

– Смаленскі сказаў, што ў іх ёсць відэа, таму трэба праехаць у аддзяленне, – успамінае падзеі таго дня Дашчынская.

У Маладзечанскім РАУС доўгі час жанчына сядзела ў фае. Праз тры гадзіны папрасіла пазваніць дадому, у яе ёсць непаўнагадовае дзіця. Бліжэй да шасці гадзін вечара яе адвялі на алкагольны агляд, які паказаў, што яна цвярозая. Пасля міліцыянер **Навіцкі** склаў пратакол.

Па словах Дашчынскай, у яе не пыталіся пра асабістыя дадзеныя, таму ў пратаколе ёсць памылка з адрасам. А тэлефон канфіскавалі, напісаўшы, што гэта тэлефон невядомага ёй на той момант Аляксандра Махоціна.

Дашчынская адмовілася падпісваць пратакол, таму што ёй не паказалі відэазапіс, дзе яна ўдзельнічае ў масавым мерапрыемстве. Міліцыянер праігнараваў просьбы жанчыны аб паказе відэа.

## Сведка Смаленскі

**Дзмітры Смаленскі** – старшына патрульна-паставой службы Маладзечанскага РАУС. 15 лістапада разам з Вайцяховічам нёс службу па ахове грамадскага парадку.

Смаленскі расказаў, што бачыў на Вялікім Гасцінцы калону прыкладна са 100 чалавек. Яны разам з Вайцяховічам ішлі за гэтай калонай, у ёй Смаленскі ўбачыў Дашчынскую. Міліцыянер удакладніў, што заўважыў менавіта яе з-за чырвонай курткі.

Яе затрымалі разам з Вайцяховічам, перадалі аўтапатрулю.

## Сведка Вайцяховіч

**Станіслаў Вайцяховіч** – міліцыянер патрульна-паставой службы Маладзечанскага РАУС. 15 лістапада працаваў у пешым патрулі разам са Смаленскім.

Падчас шэсця бачыў калону з 30 чалавек, у ёй заўважыў з-за чырвонай курткі Дашчынскую. У людзей у руках Вайцяховіч бачыў бел-чырвона-белыя сцягі. Суддзя запыталася, з якой нагоды людзі збіраліся ў той дзень. Міліцыянер Вайцяховіч сказаў, што ім не падабаецца дзейная ўлада, але не змог патлумачыць, чаму пратэстоўцы пайшлі маліцца да помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі.

## Пастанова

Суддзя Каханоўская прызнала Дыяну Дашчынскую вінаватай у парушэнні ч.3 арт. 23.34 КаАП. Яна назначыла пакаранне штрафам у памеры 40 базавых велічынь.

Цікава, што пастанова маладзечанскага суда па папярэднім парушэнні артыкула 23.34 КаАП знаходзіцца на абскарджванні ў Мінскім абласным судзе. Тая пастанова не ўступіла ў законную сілу, але Дашчынскую асудзілі быццам бы за паўторнае адміністрацыйнае парушэнне.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Пенсія беларусаў у сярэднім у 3,5 раза меншая за польскую.

# Пенсія – не грошы з паветра. Адкуль яна бярэцца

**Падчас акцый пратэстаў да ўдзельнікаў часам падыходзяць сталыя людзі з крытыкай. Яны кажуць: «Чаго вам тут не жывецца? Мне вось пенсію Лукашэнка плаціць, і ўсё добра. Не падабаецца – едзьце ў Варшаву».**

Расказваем, ці карэктна казаць, што пенсію плаціць Аляксандр Лукашэнка, і чаму пенсіянерам нявыгадна, каб моладзь з'язджала за мяжу.

### Адкуль ідуць пенсіі

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва – гэта пазабюджэтны фонд, які складае каля 10% ВВП. За кошт яго плацяць пенсіі і дапамогі.

Фінансавы аналітык праекта «Кошт урада» **Жанна Кулакова** удакладняе:

– Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва хранічна не хапае грошай, каб спраўляцца са сваімі асноўнымі абавязкамі. Таму каб ФСАН змог выплаціць усе неабходныя пенсіі і дапамогі, ён атрымлівае дапамогу з рэспубліканскага бюджэту.

Так пенсіянеры атрымліваюць выплаты за кошт таго, што людзі, якія працуюць, сплачваюць абавязковыя плацяжы. Пра гэта падрабязней патлумачыў навуковы супрацоўнік Цэнтра эканамічных даследаванняў Bегоs **Леў Львоўскі**:

– Цяпер у нас цалкам кансалідаваная пенсійная сістэма. Гэта значыць, што ўсю пенсію выплачваюць з бюджэту. У Беларусі грошы бралі з паветра толькі калі Расія давала шчодрыя субсідыі. Больш грошы з паветра ў Беларусі не бярэцца. Гэта азначае, што ўсе грошы ў бюджэце – гэта прадукт дзейнасці людзей і прадпрыемстваў у Беларусі. Пенсію плацяць з падаткаў, якія аддаюць у бюджэт.

**Грошы на пенсіі плаціць не дзяржава.**

Дзяржава выконвае размеркавальную функцыю: забірае падаткі ў тых, хто зарабляе, і аддае частку сумы на выплату пенсій. У гэтым няма нейкай заслугі кіраўніцтва. Своечасовая выплата пенсій – стандартны абавязак дзяржаўнага апарату, які выконваюць усе краіны. Іншая справа – памер пенсіі. Чым больш падаткаў і больш працуючага насельніцтва, тым большы шанец на вышэйшую пенсію.

Адкуль жа ў людзей узялася думка, што пенсіі плаціць Аляксандр Лукашэнка?

**– Ідэя таго, што існуе штосьці бясплатнае, сфарміравалася ў Савецкім Саюзе – бясплатная медыцына, бясплатная адукацыя, – разважае Львоўскі. – І што пенсіі бяруцца бясплатна ад дзяржавы. Гэтым доўга замбіравалі людзей. Бясплатнага нічога не бывае.**

### Ці маглі б пенсіі быць большымі?

Ад 1 снежня працоўныя пенсіі павышаюць у сярэднім на 5,4%. Сярэдняя працоўная пенсія складзе 483 рублі. Гэта на 25 рублёў больш за сярэднюю працоўную пенсію ў лістападзе. Памер павелічэння пенсіі ў кожнага свой і залежыць ад стажу, дапенсійнага заробку і надбавак.

Параўнаем беларускія пенсіі з выплатамі ў суседніх краінах. Беларускі партал **finance.tut.by** аналізаваў пенсіі краін-суседак з беларускімі за ліпень. Па выніках агляду вынікі наступныя:

- Украіна. Сярэдняя пенсія па ўзросце склала 314 рублёў у пераліку на беларускія грошы. Вышэйшыя пенсіі атрымалі кіяўляне – 430 рублёў.
- Расія. Сярэдні памер пенсіі ў непрацуючых пенсіянераў склаў 560 рублёў у пераліку на беларускія грошы.
- Латвія. У другім квартале 2020 года сярэдні памер пенсій па ўзросце склаў 363 еўра, ці 1102 рублі ў пераліку на беларускія.
- Літва. У жніўні сярэдняя пенсія па краіне склала 1142 беларускія рублі.
- Польшча. Сярэдняя пенсія складала 2482 злотыя, ці 1662 беларускія рублі.

Такім чынам, сярэдні беларускі пенсіянер больш чым утрая бяднейшы за польскага. У чым тут можа быць прычына, мы папрасілі паразважаць аналітыка Львоўскага.

**Эксперт адказаў на пытанне, ці маглі б беларусы быць як еўрапейскія краіны-суседзі ў плане заробкаў і пенсій з моманту незалежнасці Беларусі?**

– Мы не былі бяднейшыя за Польшчу ў 1991 годзе. Няма ніякіх прычын меркаваць, што мы чымсьці горшыя, чым Польшча. У эканоміцы нам крыху горш за Расію, таму што яны маюць шмат прыродных рэсурсаў. У гэтым плане ў нас з імі не роўнае становішча. Ад Польшчы, Літвы адрозніваe хіба тое, што мы не маем доступу да мора. А пасля развалу Саюза ў Беларусі быў высокі ўзровень чалавечага капіталу – узроўню адукацыі, кваліфікацыі.

Выплачваць пенсіі – гэта прамы і стандартны абавязак дзяржавы. А ў беларускіх пенсіянераў пры больш разважлівым кіраўніцтве пенсійныя выплаты маглі б быць заўважна вышэйшыя.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Чым небяспечныя аднаразовыя маскі для дзікіх жывёл і навакольнага асяроддзя

**На фоне другой хвалі пандэміі Covid-19 па ўсёй Беларусі ад 18 лістапада ўвялі абавязковы масквы рэжым. Маскі зніжаюць рызыку заражэння і перадачы віруса, але цяпер яны самі сталі пагрозай здароўю планеты.**



Фота Reuters.

Маладая чайка нясе маску ў дзюбе.

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) і ўстанова «Цэнтр экалагічных рашэнняў» (ЦЭР) тлумачаць, чаму.

Маскавы рэжым мае на ўвазе, што цяпер выкідваецца больш аднаразовых масак, чым раней. Лёгка заўважыць, што нават на вуліцах Мінска, дзе сметніцу знайсці звычайна нескладана, людзі часта кідаюць маскі проста пад ногі. Праблема не толькі ў эстэтыцы: аднаразовыя маскі ўтрымліваюць пластык, які забруджвае ваду і глебу. Яны таксама з'яўляюцца крыніцай небяспекі для дзікіх жывёл.

Згодна з Брытанскай вяшчальнай карпарацыяй, у Англіі афіцыйная рэкамендацыя – па магчымасці насіць шматразовую маску, якую можна мыць. А выкарыстаныя аднаразовыя маскі трэба выкідаць у бакі ў мяшках для агульнага смецця, якое не падлягае перапрацоўцы.

**Можа здацца, што праблемы дзікай прыроды другасныя ў параўнанні з сотнямі тысяч смерцяў ад віруса па ўсім свеце. Аднак чалавек – частка прыроды, мы непарыўна звязаныя з навакольным асяроддзем. Жывёлы заблытваюцца ў смецці, заглынаюць яго, гінуць ад яго. А менавіта з памяншэннем біяразнастайнасці цяпер навукоўцы звязваюць узнікненне пандэміі COVID-19 і магчымых пандэмій будучыні. Атрымліваецца замкнёнае кола, выйсці з якога дапамогуць больш усвядомленае спажыванне, экалагічныя звычкі і правільная ўтылізацыя адходаў.**

Улічваючы колькасць насельніцтва Беларусі і тое, што аднаразовыя маскі трэба рэгулярна мяняць, прыкінем, што кожны дзень выкідаюць больш за два мільёны аднаразовых масак. Яны зробленыя з нятканага матэрыялу – палімерных валокнаў, і ў Беларусі іх не перапрацоўваюць. Аднаразовыя маскі дзясяткі гадоў праляжаць на палігоне, дзе ў выніку альбо раскладуцца на мікравалокны, альбо не раскладуцца ўвогуле ў выпадку, калі іх чымсьці засыпаць і пакінуць без доступу паветра.

Дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Яўген Лабанаў** тлумачыць:

– У выпадку масак мікрапластык будзе ўяўляць сабой маленькія часцінкі або валокны, на якія падзяляецца маска пры ўздзеянні паветра, вады ці трэння. Гэтыя часцінкі ў доўгатэрміновай перспектыве будуць трапляць у навакольнае асяроддзе. Яны не растваральныя ў вадзе і могуць назапашваць іншыя рэчывы, напрыклад, цяжкія металы або арганіку. У гэтым выглядзе іх будуць з'ядаць жывёлы. Адтуль мікрапластык ужо можа дайсці па харчовым ланцужку назад да чалавека і ўяўляць небяспеку для нашага здароўя.

ЦЭР разам з АПБ падрыхтавалі падрабязную інструкцыю аб тым, як выкарыстоўваць і ўтылізаваць ахоўныя маскі.

### Каб правільна пазбавіцца ад выкарыстаных медыцынскіх масак, трэба:

1. Акуратна зняць маску за завязкі (гумкі),
2. Адарваць завязкі (гумкі),
3. Змясціць усё ў пакет (можна папяровы),
4. Затым – у закрытую скрыню або кантэйнер для агульных адходаў.

Не варта выкідаць выкарыстаныя маскі ў кантэйнеры для другаснай сыравіны, у тым ліку для пластыку. Не варта кідаць маскі ў вулічныя сметніцы, з якіх можа панесці вецер. Забаронена змываць выкарыстаныя маскі ў каналізацыю, таму што яны могуць прывесці да няспраўнасці сістэмы водаачышчэння. Маскі, якія выкарыстоўваюць у медыцынскіх установах, павінны быць утылізаваныя як медыцынскія адходы па сваіх правілах.

Калі вы носіце маску з перасцярогі, то выкарыстоўвайце шматразовую. Іх можна купіць у аптэцы (марлевыя) або зрабіць самастойна з марлі, бавоўны або іншай тканіны. Такія маскі могуць служыць даволі доўга. Пасля іх можна выкарыстоўваць як рыззё. Не забудзьцеся пасля яе ўтылізацыі вымыць рукі.

Ідэальны варыянт – усталяваць асобныя кантэйнеры для збору забруджаных аднаразовых сродкаў індывідуальнай абароны.

Маскі таксама здольныя нанесці шкоду дзікім жывёлам, якія могуць у іх заблытацца ці з'есці іх. Менавіта таму заклікаюць людзей абразаць або абрываць гумкі з масак перад утылізацыяй.

Дырэктар АПБ **Аляксандр Вінчэўскі** ўдакладняе:

– З пачаткам пандэміі ў інтэрнэце з'явілася мноства фотасведчанняў з птушкамі, якія заблыталіся ў масках. Звяры могуць, як правіла, сцягнуць з сябе маску лапамі. А птушкі сярэдняй велічыні, такія як качкі або чайкі, «апранаюць» маску на шыю або заблытваюцца ў гумках нагамі. Ім не выратавацца самім. Нам жа нічога не варта адарваць гумкі перад утылізацыяй маскі. А лепш выкарыстоўваць шматразовыя.

АПБ і ЦЭР накіравалі лісты ў Міністэрства аховы здароўя, ПРААН, прадстаўніцтва ЮНІСЕФ і СААЗ у Беларусі пра небяспеку, якую маскі нясуць дзікай прыродзе, і аб правільнай іх утылізацыі. У арганізацыях спадзяюцца, што гэтая інфармацыя з'явіцца на плакатах арганізацый і іншых інфармацыйных матэрыялах па барацьбе з COVID-19.

**Паводле паведамлення Цэнтра экалагічных рашэнняў і ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

# Аляксей Кудзін з’ехаў за мяжу і ўпершыню расказаў пра сваю крымінальную справу

**Аляксей Кудзін паведаміў у сацыяльнай сетцы, што знаходзіцца за мяжой. У Беларусі яго аб’явілі ў вышук 19 лістапада. Тады ён не з’явіўся ў суд па крымінальнай справе. Яго абвінавачваюць у супраціўленні супрацоўнікам органаў унутраных спраў.**



Кудзін (у цэнтры кадра ў кепцы) перад разгонам акцыі пратэсту на плошчы 10 жніўня ў Маладзечне.

### «Вымушаны бегчы ад гэтай сістэмы»

2 снежня Аляксей Кудзін расказаў, што знаходзіцца за мяжой. Маладзечанскі адзінаборца размясціў допіс у сацыяльнай сетцы ў інтэрнэце. У ім Кудзін тлумачыў, што быў вымушаны з’ехаць з Беларусі.

– Усім сэрцам я побач з тымі, хто змагаецца за сваю незалежнасць і яскравую будучыню. Больш за 17 гадоў я выходзіў пад сцягам сваёй дзяржавы. Шмат разоў я ўздымаў сцяг на міжнародный пляцоўцы, а цяпер вымушаны бегчы ад гэтай сістэмы. Але я вярнуся ў хуткай будучыні больш мацнейшым і з праўдай у сваім сэрцы. Жыве Беларусь!!!

У той жа дзень Кудзін падпісаў ліст спартсменаў за сумленныя выбары і спыненне гвалту.

### Знік у дзень суда

Кудзін знік раніцай 19 лістапада – у той дзень павінны былі разглядаць крымінальную справу супраць яго за супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў прапаршчыку **Канстанціну Яндолу** і падпалкоўніку **Андрэю Зорыну**. Яго абвінавачвалі ў тым, што 10 жніўня ён супраціўляўся пры затрыманні на маладзечанскай плошчы.

### Незадаволенасць фальсіфікацыяй выбараў, гвалт сілавікоў і ўцёкі

Дэталі затрымання былі невядомыя да знікнення адзінаборцы. Падрабязнасці ён расказаў у інтэрв’ю журналісту «Трыбуны» **Андрэю Маслоўскаму**.

Па словах Кудзіна, 9 і 10 жніўня ён прыходзіў на плошчу ў Маладзечне, каб выказаць незадаволенасць фальсіфікацыяй прэзідэнцкіх выбараў.

**10 жніўня ён бачыў, як вайскоўцы збіваюць і затрымліваюць людзей, якія сталі перад імі на каленях і прасілі скласці шчыты.**

Кудзін адзначыў, што вайскоўцаў для разгону ў Маладзечна прывезлі з вайсковай часці 6713, якія ахоўваюць выпраўленчую калонію №2 у Бабруйску.

Кудзін расказаў пра сітуацыю, калі яго збілі на плошчы супрацоўнікі сілавых структур:

– Падняў рукі і паказаў, што ў мяне нічога няма. У тую ж секунду ззаду шарэнгі з’явіўся вайсковец, распыліў у мой бок газ з балончыка. Я адхіліўся, павярнуўся бокам і хацеў адысці, але адчуў удар дубінкі па галаве і шыі. Пасля мне сказалі, што біў прапаршчык Канстанцін Яндола. Развярнуўся да яго, вырваў шчыт з рук і на аўтамаце даў добрую аплявуху далонню па шлеме. У той момант адчуў яшчэ адзін удар па галаве дубінкай з левага боку. Убачыў супрацоўніка ў іншай амуніцыі: у чорным і даволі рослы. Ён замахнуўся зноў, я падныруў пад дубінку і ўдарыў яго. Спрабаваў вырвацца, але насустрач рухаўся яшчэ адзін супрацоўнік, замахваўся дубінкай. Пазней даведаўся, што гэта падпалкоўнік ГУБАЗ Андрэй Зорын. Адштурхнуў левай рукой, хацеў сыходзіць, але мне зноў прыляцела дубінкай у спіну. Убачыў яшчэ аднаго супрацоўніка ў чорным, які спрабаваў ударыць дубінкай. Ухіліўся і ўдарыў яго. Потым пабег у бок парку, на маім шляху з’явіўся яшчэ адзін супрацоўнік. Ён замахнуўся дубінкай, але я стукнуў далонню пад шлем – і ён упаў.

Затым Кудзін пайшоў дадому, дзе зразумеў, што кепска сябе адчувае. Ён паехаў на сваім аўтамабілі ў бальніцу, па дарозе яго машыну спынілі супрацоўнікі СОБРа. Па словах адзінаборцы, пад яго аўто кінулі светлашумавыя гранаты.

– Заблакаваў машыну, але шкло пярэдніх дзвярэй было апушчанае. Два супрацоўнікі падбеглі да дзвярэй, падняў рукі і паклаў на руль. Спытаў, што здарылася. Замест адказу мяне білі кулакамі ў галаву. Адзін з удараў трапіў у скроневую косць. Я закрываў твар рукамі, казаў, што цяпер спакойна выйду з машыны.

**Паспрабаваў адчыніць дзверы, але мне не далі гэтага зрабіць, стрэлілі практычна ва ўпор тры разы з траўматычнага пісталета. Прама ў грудзі.**

Пасля адчыніў дзверы, выйшаў з машыны, а ўдары дубінкамі не спыняліся. Я лёг на зямлю, адзін з супрацоўнікаў назваў мяне па імені і сказаў, што я «заваліў мянта». Таму ім далі каманду жорстка затрымаць. Яго я адразу пазнаў. З Мішам, як і яшчэ парачкай байцоў СОБРа, мы разам трэніраваліся. Хлопцы цудоўна ведалі, каго едуць затрымліваць. Таму ім і давалі інфармацыю, што я нібыта кагосьці забіў.

Пасля затрымання Кудзіна прывезлі ў ізалятар Маладзечанскага РАУС.

**Адзінаборца расказаў, што страчваў прытомнасць, але толькі пасля візіту ў камеру начальніка РАУС Вадзіма Прыгары яго забрала «хуткая дапамога».**

Кудзіна этапавалі на некалькі дзён у следчы ізалятар у Жодзіне, пасля вярнулі ў Маладзечна. Адзінаборцу папрасілі запісаць відэа, у якім ён кажа, што не палітвязень, – пасля гэтага яму змянілі артыкул па гвалце над супрацоўнікамі на супраціўленне, выпусцілі пад дамашні арышт.

Сям’я Кудзіных заплаціла кампенсацыю пацярпелым супрацоўнікам органаў унутраных спраў.

**– Прапаршчык Яндола запрасіў 15 000 рублёў за накаўт ад чэмпіёна свету, падпалкоўнік Зорын – 4 000 рублёў за зуб, які адкалоўся. Хоць на вочнай стаўцы абодва крычалі, што яны афіцэры і ім грошай не трэба.**

Яны афіцыйна падпісалі ўсе дакументы, што не маюць прэтэнзій. Думаў, можа, справу закрыюць па прымірэнні, але не – справу ўсё роўна давялі да суда.

Кудзін сказаў, што пакуль не гатовы раскрываць усе нюансы, як ён з’ехаў за мяжу, каб не падстаўляць людзей.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Рулонная, звычайна ўзорыстая, папера для абклейкі сцен, столі.
4. Вельмі кароткі прамежак часу; імгненне, міг.
5. Тое, што створанае фантазіяй; мары, летуценні.
7. Магчымая небяспека, пагроза.
8. Загадка, у якой слова або фраза, якія трэба разгадаць, падаюцца ў выглядзе камбінацыі малюнкаў, знакаў і літар.
9. Рухомая металічная або драўляная пласцінка на прабоях для запірання дзвярэй.
11. Выключная адоранасць, прыцягальнасць.
13. Плата за работу, паслугі, па рахунках.
15. Б'юць мяне палкамі, Мнуць мяне камянямі, Паляць мяне агнём, Рэжуць мяне нажом; А за то мяне так губяць, Што мяне ўсе вельмі любяць.
16. Куды схаваў свой хвост воўк, калі хвастаў дождж?
18. Нябесная цела, якое па сваёй прыродзе падобнае на Сонца і ўяўляецца чалавеку на начным небе ззяючай кропкай.
20. Назавіце прафесію першага Героя Беларусі Уладзіміра Карвата.
22. Умацаванае на дрэўку палотнішча рознай формы і афарбоўкі з надпісамі, упрыгожаннямі, якое служыць эмблемай дзяржавы, арганізацыі ці вайсковай часці, злучэння, карабля.
23. Рэчыва з тлушчу і шчолачы, якое лёгка распускаецца ў вадзе і ўжываецца для мыцця.
24. Назва, дадзеная чалавеку жартам, у насмешку або для канспірацыі.
25. Грашовае спагнанне, якое накладаецца ў якасці пакарання ў адміністрацыйным ці судовым парадку.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Рух з хуткасцю, якая паступова нарастае.
3. Тое, што выраблюяць ніткамі.
6. Драпежны (пра жывёл, птушак).
8. Размеркаванне ў планавым парадку; распараджэнне аб такім размеркаванні.
10. Апошняя паэма беларускага паэта Уладзіміра Жылкі, тэкст якой з вялікімі цяжкасцямі захавалі і вывезлі за мяжу з горада Уржума.
12. Кусты, заараснікі дробных маладых дрэўцаў.
14. Чорны жалезісты турмалін.
17. Наладжваць невяаўнічыя адносіны паміж двума бакамі.
19. Звярнуць убок з дарогі, мяняючы кірунак руху; павярнуць.
21. Якуб Колас: «Добра быць у ..., якую ты сам сабе выбіраеш».
23. Вадкае лякарства, прыгатаванае з некалькіх рэчываў.
26. У 80-я гады Джо Тозер арганізаваў распаўсюджанне камп'ютарных праграм праз гэты сродак камунікацыі. Ён пускаў тэкст праграмы, закадзіраваны гукавымі частотамі. Можна было запісаць праграму на магнітафон, а пасля выканаць яе.
27. Прыстасаванне ў выглядзе металічнага ліста, збітых дошак для засцярогі ад чаго-небудзь.

## Адказы на крыжаванку з №49

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Боль. 2. Булка. 3. Лінька. 6. Офіс. 8. Экзатычны. 11. Басейн. 12. Лыжы. 14. Зярок. 15. Лухта. 17. Ланцугамі. 18. Заклік. 20. Бак. 22. Дыялог. 23. Літр. 24. Развод.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Баруны. 4. Залоза. 5. Дзясна. 7. Эліксір. 9. Дэкада. 10. Завушніца. 12. Ліміт. 13. Экран. 14. Звычай. 16. Ежа. 19. Дыяптрыя. 20. Багіня. 21. Лава. 22. Дзірван. 25. Орган.

● ГАРАСКОП НА 11-17 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Калі ў вас ёсць партнёр, пазбягайце спрэчак. Увогуле пастарайцеся як мага менш нагружаць партнёра, асабліва бытавымі праблемамі. А таксама пастарайцеся пазбягаць двухсэнсоўных выказванняў.



**ЦЯЛЕЦ.** Пазбягайце новых адносін з чалавекам, які не мае дакладнага плана на будучыню. Калі ў вас ёсць пастаянны партнёр, давядзецца сустрэцца з роднымі каханага чалавека.



**БЛІЗНЯТЫ.** З'явіцца чалавек, увага якога будзе непрыемная. Пастарайцеся прама сказаць, што вы адчуваеце. Удалы час для эксперыментаў са знешнасцю. На выхадных пастарайцеся зладзіць для каханага чалавека адпачынак ад быту.



**РАК.** Паводзіны партнёра будуць раздражняць, а адказваць на іх выйдзе сабе даражэй. Так што лепш за ўсё сканцэнтравацца на працы і бытавых пытаннях. Могуць узнікнуць праблемы, звязаныя з жыллём. Не спяшайцеся пераязджаць.



**ЛЕЎ.** Вам давядзецца прадэманстраваць уменне весці дыялог са складанымі суразмоўцамі. Будзьце акуратныя ў гутарках з калегамі. Добры час, каб будаваць планы на будучае.



**ДЗЕВА.** Моцнымі эмоцыямі дзяліцеся з тым, хто вам блізкі. Людзі, якія не вельмі добра вас ведаюць, не змогуць у поўнай меры раздзяліць вашы пачуцці. Важна заставацца шчырымі з людзьмі, з якімі звязваеце жыццё.



**ШАЛІ.** Спатканні прынясуць доўгачаканы поспех. Варта падумаць над абнаўленнем гардэроба. Калі штосьці будзе выклікаць занепакоенасць, абавязкова прама кажыце пра гэта. Цёпла апранайцеся і трымайце ногі ў цяпле, каб не захварэць.



**СКАРПІЁН.** Лепш адкласці вострыя фінансавыя пытанні, звязаныя з партнёрам. Слухайце ўнутраны голас, а не чужое меркаванне. Сплануйце сумесны адпачынак з каханым чалавекам. Магчыма, атрымаецца вырашыць стары канфлікт.



**СТРАЛЕЦ.** Пазбягайце адказных рашэнняў у рамантычнай сферы. Сямейныя клопаты будуць займаць шмат часу, і гэта пойдзе на карысць. Не забывайце часцей мыць рукі.



**КАЗЯРОГ.** Не спяшайцеся вызначацца са шлюбам, калі на вас ціснуць людзі або абставіны. Да арганізацыі спатканняў падыдзіце з усёй творчасцю, на якую здольныя. Пазбягайце моцных перамен у знешнасці і іміджы.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам будзе лянота выяўляць свае пачуцці і праяўляць свае рамантычныя памкненні. Тыдзень будзе насычаны прыемнымі эпізодамі і інтэлектуальнымі сустрэчамі. Не забывайце па-сапраўднаму высыпацца.



**РЫБЫ.** Не патрабуйце ад партнёра вельмі многага. Магчыма, будзе момант, калі больш бяспечна будзе схлусіць. З сябрамі абавязкова варта сустрэцца або паразмаўляць. Гэта будзе надзвычай важна як для вас, так і для іх.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 6 | 9 | | | 2 | |
| | 9 | | | | | 7 | 3 | 6 |
| | 8 | 2 | | | 7 | | | |
| | | | | 4 | 6 | | 7 | |
| 2 | 4 | | | | | 6 | | 3 |
| | | | | 2 | 3 | | 4 | 5 |
| 8 | 5 | | | 1 | | | | |
| 9 | 3 | | | | 8 | | | 4 |
| 1 | | | | | | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



## Здымак фатографа з Маладзечна сярод найлепшых здымкаў года французскага агенцтва



Фота Сяргея ЛЕСКЕЦА.

**Сяргей Лескець** – адзін з беларускіх фатографаў, якія здымаў акцыі пратэсту пасля выбараў 9 жніўня.

У падборку AFP (Агенцтва Франс Прэс) найлепшых здымкаў 2020 года трапіла фота, на якім АМАП затрымлівае ўдзельніка акцыі пратэсту пасля закрыцця ўчастку падчас прэзідэнцкіх выбараў у Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

## Двух маладзечанцаў прызналі палітвязнямі

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзмітрыя Карабейніка** і **Рыгора Саладоўнікава** праваабаронцы прызналі палітвязнямі, паведамляе незарэгістраваны ў Беларусі праваабарончы цэнтр «Вясна».

Па версіі следства, 21 лістапада яны на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Хмяльніцкага перакрылі рух з расцяжкай: «Пока в стране беззаконие, сопротивление – наш долг». РАСК узбудзіў крымінальную справу.

**Паводле spring96.org.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ад чаго вам прыйшлося адмовіцца з-за пандэміі?

У красавіку мы запыталіся ў гэтых людзей, ад чаго яны адмовіліся з-за пандэміі каронавіруса. У той час у Беларусі ішла першая хваля COVID-19. Цяпер – другая хваля. «Рэгіянальная газета» вырашыла пацікавіцца, што змянілася ў людзей з таго часу і ці адмаўляюць яны ў чымсьці праз каронавірус. Адказы на пытанні ў красавіку вы можаце знайсці ў №16 за 17 красавіка.

**Алена Бяганская:**
– З роднымі кантактуем рэдка, як і раней. Маму бачыла толькі па справах. На самаізаляцыі ўжо не сядзім. У мяне трое дзяцей і апошнія 4 тыдні з імі на бальнічным. Ва ўсіх па чарзе 37.1, больш ніякіх сімптомаў. На новы год я працую Снягуркай. Замоў хапае, у масцы прыходзіць не прасілі.

**Ірына Жаркевіч:**
– Цяпер другая хваля каронавіруса. Адмаўляць сабе ні ў чым не даводзіцца, усё роўна ходзім на працу і дзіця ў школу. Дарэчы, мы лічым, што ўжо ўсе перахварэлі. А ў настаўніцы нашага дзіцяці была кавідная пнеўманія, а праз тыдзень злеглі з тэмпературай і кашлем муж і мае бацькі. Але нам тэстаў ніхто не рабіў.

**Максім Ціханаў:**
– У Грэцыю не давялося з'ездзіць. Але я ўжо не ў Беларусі. Быў вымушаны з'ехаць, бо калі б не з'ехаў, то, напэўна б, сядзеў. Я ўдзельнічаў у пратэстах з 9 жніўня, праходзіў па 26 кіламетраў па Мінску. Тут змены з большага не ў каронавірусе, а ў дыктатуры.

**Кацярына Бартош:**
– Пахол на працу, дзіця ў садок, старэйшых дачок у школу, па неабходнасці ходзім за прадуктамі. Вось так мы жывём. Калі шчыра, радка ездзім да нашых бабуль, трымаем сувязь па тэлефоне. З сябрамі таксама бачымся радзей. Такое жыццё, але сталі больш часу праводзіць з сям'ёй.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Яшчэ больш апытанак вы можаце пабачыць на нашым канале ў Youtube: аднасіны да чырвона-зялёнага і бел-чырвона-белага сцягоў, да маскавага рэжыму, ці памятаюць людзі Генадзя Карпенку і шмат іншых.
**youtube.com/rhby_media**

**Чытайце праз тыдзень:**

# • Што змянілі ў эканоміцы пратэсты і што беларусы набылі дзякуючы ім, раскажваюць аналітыкі.



## 12 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 6-7 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -20,3°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +8°С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,3 мм у 1980 годзе

Паводле meteoinfo.by.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1337) 11.12.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2060. Падпісана ў друк у 9.00 10.12.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.